РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# КУЛЬТУРА

КОШТ 3 РУБЛІ

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №21, 31 МАЯ 1993 ГОДА.

СЁННЯ:



МАЙ
СТЫР
ХІН

■ стар. 6 — 7

Людміла і Вольга Немагай — удзельніцы спектакля «Цар Ірад». Гэтым спектаклем Дзяржаўнага тэатра лялек Беларусі пачыналася тэатральнае свята ў Мінску.

**Працяг фестывальнай тэмы — на стар. 2, 11.**

## *СЯБРЫ!*

*Спадзяемся, што вы застанецеся з намі.*

*Кошт іадпіскі на газету «КУЛЬТУРА» на другое паўгоддзе — 180 рублёў.*




## Францыя, Парыж. Спектакль «Пароль».

*Выканаўцы: Жан-Поль Сеаліс, Анры Ажыер, Дамінік Мантэн.*

— Тэатр — гэта асноўны занятак Вашага жыцця ці захапленне?

— Не. Гэта толькі частка нашага жыцця, але такая частка, без якой мы не можам уявіць існавання на гэтай планеце. Кожны з нас мае справу, якая дае нам пэўны заробак. Дамінік і Жан-Поль — выкладчыкі ў прафесійных мастацкіх коледжах. Анры —урач, які працуе над праблемай наркаманіі.

— Мы толькі што паглядзелі выдатны спектакль «Пароль». Выдатны па колеры, пластыцы, музыцы, са сваёй недавыказанасцю, з выхадам на асабістыя асацыяцыі і аналіз. Ці папулярныя такога накірунку тэатры ў Францыі?

— Не, такія тэатры, канешне, не касавыя. Наш тэатр —пластыкі і музыкі. Як Вы ўжо змаглі заўважыць, гэта з'яўляецца асновай спектакляў. Мы самі пішам музыку, спяваем, ствараем дэкарацыі. Мы разумеем, што папулярным тэатрам не будзем, ды й мы не дамагаемся гэтага, але хочам знайсці сваю нішу ў тэатральным мастацтве, знайсці свайго гледача. Хай гэта гучыць залішне аптымістычна...

— Імкненне да элітарнага тэатра?

— Ведаеце, знакаміты Дзюлан неяк сказаў, што няма неадукаванага гледача. Як толькі чалавек пачынае ўспрымаць інфармацыю са сцэны, ён адначасова пачынае адчуваць рытм і ўмовы спектакля. Мы лічым, што наш тэатр нельга падводзіць пад нейкую рысу альбо катэгорыю. Гэта сінтэз: крыху абсурду, крыху пантамімы, крыху тэксту. Таму нам цяжка знайсці свайго гледача ў Францыі. Французы разважаюць катэгорыямі: балет, класічны тэатр, шоу. Наш тэатр — гэта наша страсць!

— Поспехаў Вам!

## Швецыя, Стакгольм. Спектакль «Дзяўчынка і рапуха».

*Выканаўцы: Стэн Волін, Ілва Хёкансон, Мікаэль Коіч.*

— Над якімі спектаклямі лягчэй працаваць: дзіцячымі ці для дарослых?

— Мы любім розную публіку, калі ў зале ёсць і дзеці, і дарослыя. Інфармацыі ў спектаклі хапае для ўсіх. Але сёння, на жаль, нам не хапала смеху ў зале, бо гледачы нас не разумелі, не было перакладу.

— Дайце мне веры, як маці, што інтанацыі Элін і яе бацькоў знаёмыя ўсім гледачам. Мне здаецца, што праблема вольнага часу бацькоў — інтэрнацыянальная. Я бачыла ўсмешкі на тварах дзяцей, чула смех дарослых. Асабліва хачу звярнуць увагу на выдатны рэжысёрскі прыём: першая з'ява бацькоў Элін. Вобраз ног і голасу стварае пэўнае асяроддзе Дома, дзе мітуслівае наша жыццё прымушае дарослых не толькі не заўважаць маленькіх «рапух», якіх мы выпускаем у свет, але і маленькіх людзей. Мне здаецца, што Ваша трупа універсальная. Перад пачаткам спектакля гучала музыка, якая нагадвала нам пра далёкую Швецыю, артысты выдатна спявалі. Калі прааналізаваць, у Вашым спектаклі ёсць элементы Мастацтва на пляцы. Наколькі папулярны лялечны тэатр у Швецыі?

— Як ні дзіўна — не вельмі. Такіх вялікіх фэстаў на сваёй радзіме мы нават і ўявіць сабе не можам. Вось мы разам працуем 17 год, Ілва прыйшла да нас год таму. Мы добра ведаем лялечныя тэатры Стакгольма. Канешне, у кожнага тэатра ёсць свае цяжкасці. Але для нас гэта яшчэ і стан душы. Усё, што Вы тут бачылі, зроблена нашымі рукамі. Нам, траім акцёрам, дапамагае яшчэ рэжысёр. Музыку, тэксты, рэжысуру ствараем самі. Таму нам цікавы такія фэсты, дзе можна паглядзець на іншыя тэатры ценяў. Нельга варыцца ў адным гаршку. Гэта своеасаблівы допінг для нас. У нас на радзіме няма пастаяннага памяшкання, свайго будынка. Мы выступаем там, куды нас запрашаюць. Такіх выдатных умоў, якія існуюць у Вашых тэатрах, у нас няма. Тым больш, што Вашы тэатры датуюцца дзяржавай.

— І ўсё ж такі, калі б была магчымасць прыехаць да нас зноў, ці хацелі б вы мець тут свайго гледача? Мінскай публіцы вы надта спадабаліся, і Вас будуць памятаць.

— Безумоўна! Толькі вось, ці нам трэба вывучаць беларускую мову, ці гледачам ангельскую? Зразумелая ўсім мова тэатра — музыка, колер...



*Гурый Барышаў, мастацтвазнаўца, Мінск.*

— Ці спадабалася Вам адкрыццё міжнароднага фестывалю лялечных тэатраў?

— Калі думаць, што ўвасабленне нацыянальнага мастацтва —гэта два чалавекі з бубнам і баянам, то канешне. На жаль, я бачыў толькі гэту частку адкрыцця. Каб патрабаваць адпаведнай рэжысуры, дык спачатку трэба ўкласці адпаведныя грошы. Памятаеце блазна з «Караля Ліра»? Ён казаў: «З нічога й не выйдзе нічога». Але ўсё ж такі такія фэсты патрэбны. Нашаму мастацтву настала пара знайсці сваю нішу ў еўрапейскай культуры. А для гэтага нам трэба сябе паказаць, бачыць мастацтва іншых. Паглядзіце, колькі лялечных тэатраў прыехала да нас. Усе яны разнастайныя па накірунках. Адбываецца сапраўдны семінар лялечнікаў. Тут можна пазнаёміцца не толькі з тэхнікай, новымі рэжысёрскімі прыёмамі...

— Але лялька акрэслівае задачы і формы тэатра. Яна ўжо стварае пэўны вобраз, як толькі з'яўляецца перад гледачом.

— Лялечны тэатр мае зусім іншыя задачы, чым тэатр жывога акцёра. Безумоўна, лялька досыць выразная — часцей яна больш выразная за чалавека-акцёра. Не заўсёды напісаную п'есу для класічнага тэатра можна спраецыраваць на сцэну лялечнага тэатра. Але ж адбываюцца парадаксальныя гісторыі, калі тэмы, ідэі, рэжысёрскі ход знаходзяць поўнае ўвасабленне менавіта ў лялечным тэатры. Лялькі ствараюць чароўны свет, у якім жывуць дарослыя і дзеці. Яны абуджаюць багатыя асацыяцыі, уяўленні. Чаму мы часта гаворым, што дарослыя — гэта вялікія дзеці? Лялечныв тэатр вяртае нас у дзяцінства з дапамогай сілы мастацтва.



## Германія, Мануфрактуртэатр, спектакль «Халодная кашуля».

*Выканаўцы: Юліяна Ленсен, Фрэдэрык Овервег.*

— Калі б Вам прапанавалі вызначыць жанр гэтага спектакля на мове выяўленчага мастацтва, які напрамак ён меў бы: экспрэсіянізм, мадэрнізм, рэалізм?..

— Калаж. Мы імкнёмся ў сваіх спектаклях увасобіць вобраз свабоды, аб'ёмнай свабоды. У большасці сваёй нашы спектаклі —імправізацыя, яны кожны раз гучаць адвольна. Пакідаем толькі асобныя «ключавыя» словы. Тэксты рэжысёр нашага тэатра Габрыэль Хенель сабраў з усяго свету: Кафка, Васэрман, Хаўзер, а таксама і свае арыгінальныя тэксты.

— Вы — прафесійныя акцёркі, выпускніцы Тэатральнай лялечнай школы ў Штутгарце. Такі сінтэз, як калаж з элементамі тэатра абсурду, тэатра лялек, нейкі зусім новы напрамак сучаснага тэатра, ён папулярны ў Германіі?

— Так! Толькі хочацца ўдакладніць, што менавіта тэма такога тэатра сёння папулярная ў нас. Тэатраў, якія распрацоўваюць гэтую тэму, зашмат, толькі формы розныя.

— ..?

— Існуюць тэатры экспрэсіі, толькі тэкставыя, а яшчэ тэатры, якія ствараюць вобраз не з дапамогай лялек, акцёраў, а праз дэкарацыі. Гэта цяжка ўспрыняць, не бачыўшы.

— Хто сёння найбольш Вам цікавы з сучасных рэжысёраў, мова якіх Вам блізкая, зразумелая, сугучная Вашай?

— Анры Варун. Калі мы толькі пачыналі працаваць разам, то нас надта ўразілі творы Тадэвуша Кантара. Гэты рэжысёр імкнуўся зламаць звычайнае, класічнае ўяўленне аб Яго Вялікасці Тэатры. Дарэчы, на гэтым фэсце прысутнічае цікавы для нас польскі тэатр «Вершалін».

— Ці адчуваецца розніца: глядач наш і ...

— Безумоўна! Па-першае, нас не разумелі, бо не было перакладу, і мы гэта адчувалі. Але, па-другое, гэта дало магчымасць імправізаваць. Калі Вы былі на спектаклі, то чулі ў тэксце рускую мову, словы, асобныя фразы. Гэта толькі дадае нашаму спектаклю пэўную афарбоўку, бо наш спектакль карыстаецца класічнымі прыёмамі тэатра абсурду.

— Ці хацелася б Вам мець свайго гледача ў наступны свой прыезд у Мінск на фэст?

— Так. Але і сваю, больш камерную, сцэну.

— Дзякуй. Поспехаў Вам.



Размаўляла з удзельнікамі фестывалю Жанна ВАСАНСКАЯ. Фота Генадзя ЖЫНКОВА.

ПАСОЛЬСКІ КЛУБ

# АД ПАРЫЖА — ДА ПАРЫЖА...

*«...Хачу адзначыць: не толькі я знаходжу на Беларусі сяброў, але і Францыя набывае іх».*
**Клод Жаліф.**

*Клод Жаліф нарадзіўся ў Нансі, у невялікім гарадку ў сям'і службоўца. Хлопчыкам мроіў аб падарожжах. Болей як трыццаць год на дыпламатычнай рабоце: Нью-Дэлі, Тэль-Авіў, Рабат, Парыж, Масква. Сёння Клод Жаліф — Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Францыі ў Рэспубліцы Беларусь.*



**— Спадар Клод Жаліф, паміж Францыяй і Беларуссю не адна сотня кіламетраў, але многае звязвае нашыя краіны. У нас, на Віцебшчыне, таксама ёсць Парыж. А недалёка ад Мінска жывуць нашчадкі французаў з прозвішчамі Метта, Шарпіо, Безенсон. Я ведаю, што Вы зацікавіліся гэтым фактам. Што ляжыць у аснове Вашай цікаўнасці?**

— Пытанне, якое Вы згадалі, істотнае. Яго можна абгрунтаваць уласнай цікаўнасцю. Ды і ўвогуле, гэта абсалютна нармальна, калі пасол Францыі збірае матэрыялы пра французаў ці тых нашчадкаў французаў, што пакінулі свае сляды на тэрыторыі той краіны, дзе ён працуе...

Сёння мы жывём у зусім новым перыядзе гісторыі. Раней мы падзяляліся на два блокі — усходні і заходні, у нас існавалі нацыянальныя падзелы — Расія, Германія, іншыя краіны. Цяпер Еўропа пачынае рабіцца адным цэлым. Беларусь прываблівае мяне найперш сваёй складанай гісторыяй. Яна заўсёды была ў памежжавым стане, то належала да Захаду, то да Ўсходу...

Існуе версія, што французы на беларускай зямлі — гэта нашчадкі салдатаў напалеонаўскай арміі, што засталіся тут пасля вайны. У мяне іншая гіпотэза. Я думаю, што яны з'явіліся на Беларусі яшчэ да 1812 года. І звязваю гэты факт з часамі Паўла І, калі ён ажаніўся з прынцэсай Соф'яй Вюртэмбергскай. Яна і выклікала гэтых людзей сюды...

Згадаю адзін цікавы момант. Да мяне ў пасольства прыйшоў Казімір Метта і паказаў паперу, якая сведчыла, што ягоны дзед быў лютэранскай веры.

У нас ёсць пратэстанты, але яны належаць да кальвіністкай плыні. А лютэранаў зусім мала, і жывуць яны пераважна ў раёне Монбельяра, дзе якраз і найчасцей сустракаюцца прозвішча Метта, Шарпіо, Безенсон і дзе нарадзілася Соф'я Вюртэмбергская, якую ў вас ведаюць пад імем Марыі Фёдараўны.

Калі цар Аляксандр разам з расейскімі войскамі званяваў Францыю, то ён наведаў Монбельярскі замак, дзе нарадзілася ягоная маці.

**— Спадар Клод Жаліф, Вас можна сустрэць на шматлікіх прэм'ерных спектаклях, канцэртах, выставах. Як Вы ацэньваеце культурнае жыццё рэспублікі, ягоны ўзровень?**

— Я быў надзвычай уражаны насычанасцю культурнага жыцця рэспублікі. У музычнай сферы Вы маеце ўсё, што можа зацікавіць іншыя краіны. У вас цудоўныя опера, балет, сімфанічны і камерны аркестры. Я атрымаў вялізнае задавальненне ад балетаў «Дон-Кіхот» і «Ундзіна». Самыя цёплыя словы хачу сказаць пра канцэрт, які ладзілі ў музычным ліцэі юныя музыканты з камернага аркестра. Уяўляеце, падчас іхняга выступлення патухла святло, а яны працягвалі іграць. Гэта сведчанне высокай прафесійнай падрыхтоўкі. З задавальненнем наведаў канцэрт беларускіх музыкантаў у філармоніі. Дырыжыраваў вядомы ў Францыі музыкант Марк Блёз. І ведаеце, што болей за ўсё мяне дзівіць? Гэта тое, што актыўнае культурнае жыццё не сціхае ў такой няпростай эканамічнай сітуацыі. Я ведаю, гэта патрабуе асаблівых высілкаў і нават пэўных ахвяр. Я схіляю галаву перад вашым народам, яго высокай духоўнасцю. І пра тое, што вы робіце ў галіне культуры, пра вашыя здабыткі трэба, каб ведалі ў іншых краінах.

**— Францыя дала прытулак Марку Шагалу, Надзеі Лежэ. Сёння ў Парыжы жыве і працуе яшчэ адзін выдатны мастак з Беларусі — Барыс Забораў...**

— Францыя сапраўды шмат зрабіла для гэтых людзей, але і яны ўнеслі шмат у культуру Францыі. Сёння іх творчасць належыць усяму свету. Але я хацеў бы дапоўніць спіс вашых землякоў. Гэта і Хаім Суцін, які адыграў істотную ролю ў станаўленні французскага экспрэсіянізму. І выдатны скульптар Восіп Цаткін...

У гэтай сувязі я хачу згадаць мастакоў, з якімі пазнаёміўся тут на Беларусі. Гэта Леанід Шчамялёў (яго творы неаднойчы экспанаваліся ў Францыі), Аляксандр Кішчанка, аўтар габелена для ЮНЕСКО і партрэта Мітэрана, што нядаўна быў падораны ўраду Францыі. Я з задавальненнем наведаў майстэрні віцебскіх мастакоў: пазнаёміўся з творчасцю групы «Квадрат» і скульптара Аляксандра Гвоздзікава. Запомнілася сустрэча са скульптарам Іванам Місько, аўтарам партрэтаў і кампазіцый, прысвечаных французскім касманаўтам Жан-Лу Крэцьену і Мішэлю Таніні. Думаю, што ў беларускім жывапісе мяне яшчэ чакае нямала адкрыццяў.

**— Два гады таму мне давялося быць у Лар'ене на фальклорным фестывалі кельтаў. Я слухала сімфонію Алана Стывела і са здзіўленнем адзначала яе падабенства да «Белай Вежы» Алега Янчанкі. І там і тут побач з класічнымі інструментамі гучалі народныя. Гэта надавала музыцы асаблівы каларыт.**

— Вы закранулі хвалюючую мяне праблему... У Францыі ёсць невялікая тэрыторыя, дзе жыве частка кельцкага народа, якая захавала сваю гісторыю, культуру. Музыка ў кельтаў вельмі самабытная. І калі ўпершыню я пачуў некаторыя беларускія песні, то яны нагадалі мне тыя мелодыі, што звязалі мяне з Брэтанню. Народныя традыцыі нельга закансерваваць, пакласці ў халадзільнік, іх трэба мадэрнізаваць, развіваць, але пры гэтым заставацца вернымі вытокам. Сёння гэтак робяць шмат якія народныя калектывы і ў Брэтані, і ў Беларусі.

**— Ваша краіна падаравала свету Вальтэра, Гюго, Дэга... Чым жыве сёння культура Францыі?**

— Французская культура з'яўляецца часткай сусветнай, але, натуральна, яна мае шмат асаблівасцей, якія выяўляюць яе адметнасць. Нашая дзяржава выдаткоўвае значныя сумы грошай на развіццё нацыянальнай культуры. Болей, чым у іншых краінах, дзе пераважна спадзяюцца на спонсараў. У нас спонсары таксама ёсць, але менавіта дзяржава адыгрывае галоўную ролю ў падтрымцы і фінансаванні культуры. Возьмем французскае кіно, якое з дапамогай дзяржавы спрабуе стварыць канкурэнцыю амерыканскаму кінематографу. За апошнія гады вельмі шмат сродкаў было ўкладзена ў захаванне і будаўніцтва музеяў, асабліва ў невялічкіх гарадах. Сталася модай, адзнакай своеасаблівага снабізму, калі кожнае места хоча мець свой музей. У нас ёсць «Музей усяго», музей карабкоў ад запалак. У Правансе, напрыклад, вы можаце наведаць музей, экспазіцыю якога складаюць спінкі ад крэслаў.

Энтузіязм — вельмі цікавая з'ява. Ён рухае культуру. А што да жывапісу, то ў Францыі сёння існуе мноства розных плыняў, накірункаў. Лідзіруе, пэўна, фігуратыўны жывапіс, які актыўна выкарыстоўвае сімвалы, колеры, непатрэбныя рэчы. Напрыклад, некалькі год назад на адной з выстаў можна было пабачыць карціну без малюнка, але з надпісам: «Гэта карціна напісаная». Але падобныя тэндэнцыі ў жывапісе трываюць нядоўга, і ён зноў паступова пачынае наблажацца да рэалізму, толькі не класічнага, а, так бы мовіць, «мадэрнізаванага» рэалізму.

**— У нас у рэспубліцы ёсць шмат энтузіястаў, якія цікавяцца Вашай краінай і шмат робяць для наладжвання кантактаў. Я магу назваць да прыкладу мінскую школу № 20, якая сябруе з ліцэем Сент-Экзюперы ў Ліёне, школу № 79, якая падтрымлівае сувязі з Німам. А якія перспектывы ў нашых краін у навуковым і культурным супрацоўніцтве?**

— Я ведаю пра гэтыя школы, дзе выкладчыкі даюць добрыя веды сваім вучням. Толькі найлепшыя словы можна сказаць і ў адрас Педагагічнага інстытута замежных моў, які рыхтуе выдатных спецыялістаў па французскай мове. У вас у рэспубліцы высокі ўзровень адукацыі, але нашая дапамога не будзе лішняй. Каб паспрыяць вам у плане развіцця сацыяльных, гуманітарных навук, мы плануем задзейнічаць нашых спецыялістаў. Ёсць яшчэ адна сфера, у якой мы можам супрацоўнічаць разам — гэта захаванне і рэстаўрацыя архітэктурных помнікаў. У гэтай справе мы маем багаты вопыт. Таксама плануем арганізацыю сумесных выстаў, фестываляў. Але трэба быць рэалістамі. Нашыя фінансавыя магчымасці абмежаваныя. І ўсё адразу не зробіш. Калі ў нас будзе будынак пасольства, то, думаю, з'явіцца магчымасць разам з беларускімі партнёрамі арганізаваць культурны цэнтр. А што да вывучэння беларускай культуры, мовы, то мы думаем стварыць секцыю ў Парыжскім інстытуце ўсходніх моў. Паколькі беларуская мова займае важнае месца сярод іншых славянскіх моў, то, мяркую, нямала спецыялістаў могуць ёй зацікавіцца.

**— У свой час Франсуа Ларошфуко сказаў, што пасля мудрасці самы цудоўны падарунак, які быў зроблены людзям, гэта — сяброўства. Я жадаю Вам сустрэць у нас як мага болей сяброў.**

— Дзякуй за пажаданне. Хачу адзначыць: не толькі я знаходжу на Беларусі сяброў, але і Францыя набывае іх. На вашай зямлі ў рэальнасці існуюць такія рэчы, пра якія мы нават не здагадваліся...

*Развітваючыся, мы дамовіліся сустрэцца яшчэ раз. Клод Жаліф паабяцаў разам з карэспандэнтам «Культуры» пабываць у гасцях у нашчадкаў французаў на Беларусі. У час гэтых візітаў пасол пазнаёміцца з унікальнымі фотаздымкамі знакамітых французаў, што захаваліся ў архівах нашых землякоў і нідзе дагэтуль не друкаваліся.*

*А пакуль пасол Францыі Клод Жаліф чытае Васіля Быкава...*

З паслом гутарыла
Людміла **КОЗІНА.**

# ПАНЯДЗЕЛАК: ПАДЗЕІ, ІНФАРМАЦЫЯ, КАМЕНТАР

ДВА ЛІСТЫ Ў ВЯРХОЎНЫ САВЕТ

## *Зварот Мінскай гарадской Рады Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны**

У апошні час, напярэдадні чарговай XII (майскай) сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, на якой маюць быць разгледжанымі найважнейшыя пытанні аб прыняцці Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і аб усенародным рэферэндуме, якія ўжо ў бліжэйшы час павінны вызначыць галоўны накірунак развіцця нашай рэспублікі, а разам з ім — і лёс беларускага народа, на старонках афіцыйнай рускамоўнай і пракамуністычна настроенай прэсы і ў іншых сродках масавай інфармацыі, у афіцыйных вусных прамовах некаторых кіруючых асоб усё шырэй распаўсюджваюцца беспадстаўныя патрабаванні аб пераглядзе Закону аб мовах у Рэспубліцы Беларусь з мэтай прыняцця ў якасці дзяржаўных дзвюх моў — беларускай і рускай. Асабліва прыкра тое, што такія заяўленні гучаць з вуснаў асоб, надзеленых вышэйшай выканаўчай уладай і якія павінны былі б у першую чаргу клапаціцца аб выкананні дзяржаўных Законаў, прынятых вышэйшым органам заканадаўчай улады — Вярхоўным Саветам, як гэта, напрыклад, мела месца з боку Старшыні Савета Міністраў сп.Кебіча В.Ф. падчас яго наведвання Брэсцкай вобласці.

Трэба адзначыць, што найбольш свядомая частка нашага грамадства незалежна ад нацыянальнай прыналежнасці, найбольш патрыятычна настроеныя людзі добра разумеюць, што прыняцце дзяржаўнага двухмоўя самым дрэнным чынам адаб'ецца на стане роднай мовы, якая на сённяшні дзень знаходзіцца, на жаль, у вялікім заняпадзе (палітыка дэнацыяналізацыі і асіміляцыі беларускага народа на працягу доўгага часу не прайшла дарэмна), што ў рэшце рэшт прывядзе да яе поўнага знікнення. Глыбокая занепакоенасць прагрэсіўнай часткі нашага грамадства за лёс роднай мовы, лёс Айчыны гучыць у шматлікіх калектыўных афіцыйных зваротах у адрас Вярхоўнага Савета, у безлічы лістоў асобных грамадзян у газеты, на радыё.

Да якіх вынікаў такое стаўленне да беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай у Рэспубліцы Беларусь можа прывесці ў грамадстве, не могуць не ведаць і не разумець тыя, хто сёння штучна раздзьмувае гэтае пытанне. Але, відаць, ім дзеля захавання сваёй улады, удушэння дэмакратычных прынцыпаў не цяжка паступіцца нават сваім сумленнем, ім непатрэбна наша Адраджэнне. Наадварот, яны толькі і чакаюць у складаных умовах эканамічнага жыцця паглыблення канфрантацыі ў грамадстве паміж прадстаўнікамі розных нацыянальнасцяў, раз'яднання людзей, дэстабілізацыі ўсяго грамадства, спекулюючы на моўным пытанні.

У рэшце рэшт прызнанне рускай мовы ў якасці дзяржаўнай у нашай краіне абразіла б людзей іншых нацыянальнасцяў у шматнацыянальнай Беларусі, згуртаваных у свае нацыянальныя саюзы, супольнасці — палякаў, украінцаў, летувісаў і інш., якія ў такім выпадку па праву патрабавалі б прызнання і іх моў у якасці дзяржаўных.

У любой цывілізаванай краіне афіцыйнае парушэнне Закону аб мовах прыводзіць да вялікіх штрафаў, спагнанняў, а ў нас нават самі прадстаўнікі вышэйшых заканадаўчых улад не толькі грэбуюць, але і беспакарана абражаюць дзяржаўную мову.

У такіх варунках вынясенне пытання аб дзяржаўным двухмоўі ў рэспубліцы, дзе нішто не пагражае і не перашкаджае развіццю іншых нацыянальных моў, традыцый і культур, на ўсенародны рэферэндум, было б амаральным з боку дзяржаўных заканадаўчых органаў, здзекам над народам.

Гарадская Рада Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, непакоячыся за лёс матчынай мовы, кіруючыся імкненнем спрыяць захаванню адзінства і стабільнасці ў грамадстве, абураючыся штучным распальваннем пытання аб дзяржаўным двухмоўі, звяртаецца да вас, паважаныя народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь, з заклікам праявіць высокую чалавечую годнасць і палітычную мудрасць, спыніць гвалт над роднай мовай беларускага народа і замацаваць за ёй у новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь статус адзінай дзяржаўнай мовы, а ад выканаўчых органаў улады патрабаваць безумоўнага і неадкладнага выканання Закону аб мовах.

**Ад імя Мінскай гарадской Рады ТБМ імя Ф.Скарыны яе старшыня прафесар Мікола САВІЦКІ.**

---

* Друкуецца з невялікімі скарачэннямі.

## *ПРАБЛЕМА — НАДЗВЫЧАЙНАЯ!*

Мастакі і архітэктары Беларусі звяртаюцца да дэпутатаў Вярхоўнага Савета з просьбай вырашыць пытанне, якое ў цяперашні час набыло характар надзвычайнай праблемы. Ад яе вырашэння залежыць існаванне не толькі нашых творчых саюзаў, але і нацыянальнай мастацкай культуры ў цэлым.

Размова ідзе пра высокую плату за творчыя майстэрні (рабочае месца творцы). Саюзы мастакоў і архітэктараў РБ, якія аб'ядноўваюць высокапрафесійных спецыялістаў, застаюцца, на жаль, практычна па-за рамкамі дзяржаўных праграм, звязаных з развіццём эстэтычнай і духоўнай прасторы, маральным выхаваннем чалавека. Творчыя дзеячы страчваюць магчымасць ствараць духоўныя каштоўнасці, якія так неабходны сёння ў нашым складаным жыцці, і губляюць свой творчы патэнцыял.

Сёння мастаку-арандатару трэба плаціць за ўтрыманне творчай майстэрні, у тым ліку і за камунальныя паслугі, у сярэднім да 15-18 тысяч рублёў у месяц з асабістага бюджэту!

Гіганцкая інфляцыя і дарагоўля, адсутнасць заказаў на мастацкія творы не даюць магчымасці мастаку і архітэктару аплочваць такія сумы за ўтрыманне майстэрні.

Мы пераканаўча просім дэпутатаў Вярхоўнага Савета РБ вырашыць нарэшце пытанне аб тым, каб аплата персанальных творчых майстэрняў мастакоў і архітэктараў за электраэнергію, тэлефон, гарачае і халоднае водазабеспячэнне, цяпло і іншыя камунальныя паслугі ажыццяўлялася паводле нормаў для жылых памяшканняў. Дарэчы, так гэта зроблена ва ўсіх краінах СНД і Балтыі.

Мы вымушаны канстатаваць, што гэтае пытанне з лістапада 1992 года вырашаецца ў Савеце Міністраў РБ і Мінгарвыканкаме, але да гэтага часу яно так і застаецца адкрытым.

По даручэнні мастакоў і архітэктараў

**Старшыня Саюза мастакоў Беларусі Г.БУРАЛКІН,**
**старшыня Саюза архітэктараў Беларусі В.КАВАЛЕЎСКІ.**

## ВЯРТАННЕ СТАНІСЛАВА МАНЮШКІ

Сход заснавальнікаў Беларускага музычнага фонду імя Станіслава Манюшкі адбыўся ў Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь.

На ім сабраліся даследчыкі творчасці нашага славутага земляка. Імя Станіслава Манюшкі, адзначыў вядомы оперны спявак Віктар Скарабагатаў, музычная спадчына кампазітара, ягоная асоба заўсёды былі ў нас у пашане. Пастаноўка «Страшны двор» ажыццёўлена на беларускай мове. Адзіны ў свеце музей, прысвечаны выдатнаму кампазітару, існуе на яго радзіме ў Убелі. Не адкрыццё імя Манюшкі патрэбна беларусам, а ўспрыняцце ягонай творчасці. А для гэтага павінны быць створаны пэўныя ўмовы. Таму ў фонду наперадзе вялікая работа: выданне твораў, перакладзеных на беларускую мову, узнаўленне мясцін, пабудоваў, звязаных з жыццём і дзейнасцю музыканта, даследчыцкая работа, прапаганда праз асобу і творчасць Манюшкі беларускай музычнай спадчыны.

Сход абраў праўленне фонду. У яго склад увайшлі заслужаны артыст Беларусі В.Скарабагатаў, дырэктар Музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры РБ А.Міхаленя, старшыня выканкама сельскага Савета пасёлка «Азёрны» Чэрвеньскага раёна В.Несцяровіч, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры АН РБ У.Мархель, старшыня аўтарскага фонду кампазітараў РБ В.Войцік, адказны сакратар Камісіі РБ па справах ЮНЕСКО З.Калантай, старшыня Мінскага гарадскога краязнаўчага таварыства «Менск» У.Дзянісаў, а таксама прадстаўнік Літвы. Старшынёй фонду абраны Віктар Скарабагатаў.

На заканчэнні пасяджэння трохі нечакана прагучалі словы аднаго з літоўскіх заснавальнікаў фонду — старшыні клуба «Гервечай» Альфонсаса Аўгуліса пра тое, што апошнім часам неяк пагоршыліся сувязі паміж абодвума блізкімі народамі, звязанымі гістарычным лёсам. Ён выказаў спадзяванне ад імя міністра культуры Літвы і інтэлігенцыі суседняй краіны на пашырэнне і ўзмацненне такіх сувязей.

**Наш кар.**

## ● У НЕКАЛЬКІ РАДКОЎ

- 31 мая пачаліся Дні культуры Швейцарыі ў Беларусі. У праграме — адкрыццё мастацкай выставы і выставы мастацкага плаката, канцэрты сімфанічнай, вакальнай, арганнай і джазавай музыкі.
- 4 чэрвеня ў Маладзечне распачнецца першы Міжнародны фестываль беларускай музыкі і паэзіі.
- У зале Літаратурнага музея Янкі Купалы прайшло першае пасяджэнне беларуска-польскай кансультацыйнай камісіі па справах гісторыка-культурнай спадчыны. Мэта пасяджэння — распрацоўка статута камісіі, вызначэнне кола праблем, якія будуць рыхтавацца для вырашэння ўрадам.
- 16 чэрвеня дырэктары тэатраў Беларусі накіроўваюцца ў Берлін для ўдзелу ў германа-беларускім семінары па тэатральным менеджменце, які праводзіцца па лініі Інстытута Гётэ. 31 ліпеня ў Мінску пачынае працаваць філіял Інстытута Гётэ, які будзе займацца развіццём кантактаў у галіне інфармацыі, адукацыі і культуры.
- У Мінскім Доме афіцэраў прайшоў дабрачынны святочны канцэрт, прысвечаны Міжнароднаму сімпозіуму па праблемах экалогіі, што быў наладжаны АН Беларусі. У канцэрце прынялі ўдзел вядомыя майстры мастацтва: ансамблі «Сябры», «Верасы», спевакі Іван Краснадубскі, Уладзімір Правалінскі, паэт Л.Дранько-Майсюк, дзіцячыя фальклорныя калектывы «Жаваронachкі», «Званочкі», кампазітары Ігар Лучанок і Валянціна Сярых.

**Наш кар.**

## *КАЛЯНДАР ЮНЕСКА*

| ЧЭРВЕНЬ 1993г. | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | Вінцас Мікалайціс-Пуцінас | Выдатны дзеяч літоўскай літаратуры | 100-годдзе з дня нараджэння |
| 6 | Юліян Попер | Першы румынскі даследчык пяці кантынентаў: Еўропы, Азіі, Афрыкі, Паўночнай Амерыкі і Лацінскай Амерыкі. Быў першым навукоўцам, які даследаваў Вогненную Зямлю, зрабіў навуковыя назіранні і арганізаваў першыя пастаянныя паселішчы | 100-годдзе з дня смерці |
| 15 | Іон Марын Садавяну | Румынскі пісьменнік, творчасць якога ўяўляе сабою эпічную манаграфію румынскага народа | 100-годдзе з дня нараджэння |
| 29 | Ёзеф Рэсэль | Чэшскі вынаходнік (грабны вінт) | 200-годдзе з дня нараджэння |

# НЕАЦЭННЫ СКАРБ

*Пры Беларускім інстытуце праблем культуры дзейнічае савет дырэктароў абласных і прадстаўнікоў раённых метадычных цэнтраў культуры. Апошняе яго пасяджэнне прайшло на Брэстчыне ў Іванаўскім, Кобрынскім і Пінскім раёнах і было прысвечана праблеме «Нацыянальная культура і дзеці». У пасяджэнні савета бралі ўдзел прарэктар, загадчык аддзела народнай творчасці БелІПКа* **М.Крыловіч,** *этнограф, кандыдат гістарычных навук* **Т.Кухаронак,** *этнамузыколаг, кандыдат мастацтвазнаўства* **Т.Варфаламеева.** *Яны і падзяліліся сваімі ўражаннямі.*

**Марыя Крыловіч:**

— У Беларускім інстытуце праблем культуры пры аддзеле народнага мастацтва створана лабараторыя традыцыйнага і аматарскага мастацтва. Свае навуковыя распрацоўкі мы імкнёмся скарыстаць на практыцы. Карыснай і для навукоўцаў, і для культасветнікаў была сустрэча на Брэстчыне. Я і мае калегі зноў упэўніліся, што народная культура жыве. Сёння наогул назіраецца унікальная сітуацыя, калі «нізы» хочуць, а вярхі «могуць» штосьці зрабіць для адраджэння нацыянальнай культуры. На такой аснове можна дасягнуць многага.

Словам, мы ездзілі па Брэстчыне не толькі для таго, каб знаёміцца з вопытам, даваць парады, вучыць, але і самім вучыцца.

**Таццяна Кухаронак:**

— Першае, найбольш моцнае ўражанне — гэта людзі. Апантаныя, зацікаўленыя, якія робяць карысную справу. Напрыклад, Марыя Ламаносава і яе музей народнай медыцыны ў вёсцы Стрэльпа Іванаўскага раёна. Я шчыра пазайздросціла дзецям мясцовай школы, дзе спадарыня Марыя працуе дырэктарам. Запомнілася многае, нават сам водар шматлікіх зёлак, што паразвешваны ў музеі.

Дзеці збіраюць лекавыя расліны, вывучаюць іх уласцівасці, робяць апісанні, сістэматызацыю матэрыялу. Ім цікава непасрэдна знаёміцца з народнымі лекамі, знахарамі, варажбіткамі! Яшчэ лепей самім паспрабаваць «убачыць» свой лёс ці «прысушыць» хлопца, што спадабаўся, прамаўляючы таямнічую замову-прысушку. Вельмі цікавы пакой нованароджанага, дзе сабрана ўсё, што мае дачыненне да малога дзіцяці, нават запісаны ўсе мясцовыя забабоны і правілы паводзін для цяжарнай жанчыны.

Запомніліся этнаграфічныя мікрамузеі, асабліва Мотальскі, дзе сабраны разнастайныя навукова пашпартызаваныя экспанаты. Тут можна ўбачыць каштоўнейшыя фотаматэрыялы 30 — 40-х гадоў, што тычацца культуры і побыту мясцовага насельніцтва.

А ўзяць школу народнай творчасці ў вёсцы Опаль Іванаўскага раёна. Яе дырэктар — Ганна Клімчук, расказвала, што ёй цяжка бывае пайсці летам у адпачынак, бо гарадскія дзеці, якія прыязджаюць на канікулы да бабуль і дзядуль, просяцца на заняткі ў гурткі. А выбраць ёсць з чаго — тут і ткацтва, і вышыўка, і гурток гарманістаў, і абрадавы клас. Пра апошні хочацца расказаць крыху падрабязней. Кіраўнік гэтага гуртка Марыя Тышчаніца і яе выхаванцы робяць тое, пра што этнографы і фалькларысты гавораць на ўсіх нарадах, у лекцыях і выступленнях. Тут вывучаюць і адраджаюць святы і абрады сваёй мясцовасці. Дзеці паказалі нам абрад «гукання вясны», матэрыял для яго быў сабраны ў роднай вёсцы з дапамогай людзей старэйшага пакалення. Я перакананая, што, пасталеўшы, яны ўсё астатняе жыццё будуць актыўнымі ўдзельнікамі любога свята, а не пасіўнымі назіральнікамі (праблема, над якой культработнікі б'юцца дзесяцігоддзямі). Дарэчы, школьнікі, якія дасканала ведаюць не толькі яркія абрадавыя моманты, але і ўсе прыкметы, павер'і, збіраюцца навучыць гэтаму сваіх бацькоў, каб ладзіць, прынамсі, святы народнага календара ў сям'і, як яно і павінна быць у ідэале.

Вядома, што ў мінулым сацыялізацыя дзіцяці адбывалася менавіта ў сям'і. Асноўнае месца ў гэтым працэсе займала традыцыйная беларуская народная абраднасць, заснаваная на пастулатах звычаяў, нормах народнай этыкі, маралі і педагогікі, фальклору. З дзяцінства ў памяці захоўваліся калыханкі, забаўлянкі, лічылкі, гульні, цацкі, загадкі, прыказкі, прымаўкі, казкі, дзіцячыя песні, паданні, легенды. Асабліва важную ролю ў выхаванні дзяцей адыгрываў іх непасрэдны ўдзел у святах і абрадах народнага календара, які рэгуляваў традыцыйны лад жыцця беларусаў на працягу года.

Так, пастунова, да моманту дасягнення паўналецця хлопцы і дзяўчаты даведваліся пра ўсе традыцыйныя звычаі, абрады, фальклорную спадчыну сваёй мясцовасці і ўсведамлялі сваё месца і ролю ў іх захаванні. Моладзь засвойвала асноўныя каштоўнасці традыцыйнага ладу жыцця, сярод якіх галоўнымі былі праца, сям'я, дом, бацькаўшчына. Цэласная сістэма выхавання дзяцей і моладзі існавала ў мінулым у беларусаў у межах больш складанай сістэмы традыцыйнага ладу жыцця, які рэгуляваў развіццё сельскай абшчыны беларускай вёскі. Гэтыя дзве сістэмы былі цесна звязаны і пастаянна ўзаемадзейнічалі паміж сабой. Парушэнне або разбурэнне адной з іх выклікала адпаведныя працэсы ў другой.

Сёння мы назіраем значнае разбурэнне згаданых сістэм. Выхаванне дзяцей і асабліва нацыянальнае свядомасці ў іх ператварылася зараз у асабістую справу бацькоў. Улічваючы нацыянальны нігілізм большасці беларусаў, зразумела, што такое становішча не можа спрыяць Адраджэнню. Гэта справа школы, усёй сістэмы адукацыі, культасветработы, пры ўмове, што яна сапраўды нацыянальная, пры дзейснай дапамозе культработнікаў, што мы і ўбачылі на Брэстчыне.

**Тамара Варфаламеева:**

— Праблема — нацыянальная культура і дзеці — частка агульнай праблемы захавання традыцыйнай культуры ў грамадстве. На Беларусі яна мае сваю спецыфіку. Наша традыцыйная культура, усе яе праявы: музычныя, матэрыяльныя — яшчэ жывыя. Паўстае пытанне: што адраджаць? Існуюць некалькі поглядаў. Першы: традыцыйную культуру можна адрадзіць праз так званыя дробныя формы (самадзейны калектыў вывучае песні, танцы). Але ж традыцыйная культура бытавала задоўга да таго, як пачалі арганізоўвацца гурткі. Яна мае свае адметныя асаблівасці: не патрабуе кіраўніцтва, жыве па законах самаарганізацыі, самакіравання, самааднаўлення. Гэтая культура існуе на Беларусі ў жывым выглядзе, чаго не скажаш пра іншыя краіны. І гэта вельмі важна. Традыцыйную культуру трэба аднаўляць не праз другасныя формы, а шляхам стымулявання мясцовай фальклорнай традыцыі.

Людзі на вёсках збіраюцца, ствараюць гурты, спяваюць, танчаць, іграюць на музычных інструментах, адзначаюць Каляды, Купалле. Культработнікам на месцах застаецца толькі усяляк спрыяць гэтаму працэсу.

Традыцыйная культура перадаецца вусным шляхам. На Берасцейскай зямлі разумеюць, што пачынаць трэба з дзіцячага ўзросту. Мы пазнаёміліся з выдатным музыкантам, які стварыў сваю школу сярод хлопчыкаў ад сямі да чатырнаццаці гадоў і навучыў іх граць. Гэта трэба чуць! Спецыялісты адразу б сказалі, што музыканты са спецыяльнай адукацыяй так ніколі б не сыгралі.

Але выявілася праблема другога парадку: недасканаласць шляху перадачы ўзораў фальклору дзецям. Тут многае залежыць ад кіраўніка: падбор рэпертуару, манера, сцэнічныя дзеянні. Мы бачылі, як шасцігадовыя дзеці танчылі без энтузіязму дарослыя танцы і спявалі прыпеўкі пра каханне да трактарыста... Для іх прызначаны гульні, казкі, забаўлянкі. Трэба, каб дзеці праз гульню далучаліся да сваёй культуры, а да абрадаў прыходзілі ў пэўным узросце.

Калі на чале дзіцячых гурткоў стаіць чалавек, які добра ведае традыцыю, тады дзеці набліжаюцца да яе, атрымліваюць тое, што трэба. Аднак не ўсе выхавацелі ўлічваюць асаблівасці ўзросту выхаванцаў. Нашымі навукоўцамі распрацаваны метадычныя дапаможнікі, у якіх можна знайсці парады на гэты конт.

У вёсках, дзе захоўваюцца аўтэнтычныя формы фальклору, дзяцей далучаюць да яго і сёння, як гэта было ў далёкай мінуўшчыне. Складаней з гарадскімі фальклорнымі гурткамі. Напрыклад, пры навучанні дзяцей народнаму танцу ўводзяць сцэнічныя элементы. У выніку атрымліваецца эклектыка, нешта каля беларускага. На самой справе — невядома што. Таму яшчэ раз хачу падкрэсліць, усё залежыць ад кваліфікацыі кіраўніка, яго густу і грамадзянскай пазіцыі.

Паездка на Брэстчыну паказала: беларусы маюць неацэнны скарб — традыцыйную культуру ў такой ступені захаванасці, якой няма ні ў кога. Гэта трэба разумець і ўсяляк падтрымліваць, стымуляваць яе жывучасць. Больш таго, традыцыйная культура можа і павінна прынесці нашаму народу пэўную выгоду. Нам трэба пазбавіцца стэрэатыпаў і нейкай закамплексаванасці і скарыстаць багацце разумна. У нас ёсць усе падставы зрабіцца цэнтрам усходнеславянскай традыцыйнай культуры. Чым болей мы захаваем, тым больш заможнымі будзем, тым лягчэй будзе станавіцца нам суверэннай дзяржавай і выходзіць у свет.

**Падрыхтавала Наталля КІРПІЧЭНКАВА.**



*Выкладчык універсітэта з Галандыі Ларыса Бекерынг, па паходжанні беларуска, заснавала фонд Чэрніна (па імені свайго бацькі) для дзяцей з Беларусі і Расіі. Фонд заахвочвае здольных дзяцей. У гэты свой прыезд спадарыня Бекерынг прывезла для дзяцей са студыі дзіцячай творчасці Першамайскага раёна Мінска падарункі, шаснаццаць стыпендый, заснаваных яе фондам, і прэміі за лепшыя работы.*

*На здымку:*
*Саша Паваркова атрымала першую прэмію за свае малюнкі.*

Фота Уладзіміра ШУБЫ, БЕЛІНФАРМ.

## ВІНШУЕМ!

**З 75-годдзем**

КАЗАЧЭНКУ Віктара Фёдаравіча — жывапісца.

**З 70-годдзем**

СТАЛЯРОВА Івана Міхайлавіча — акварэліста.

**З 60-годдзем**

КІШЧАНКУ Аляксандра Міхайлавіча — жывапісца, майстра дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва

ВІТКУ Уладзіміра Ільіча — жывапісца.

**З 50-годдзем**

БАГУСТАВА Аляксея Паўлавіча — графіка,

АЛЯКСЕЕВА Карнея Іосіфавіча — скульптара.



Л.Пуцейка. «Гурзуф». Акварэль



А.Пуцейка. «Мастак і Муза»



З.Ліцвіна



На выставе Л. Тарасэвіча.



А.Малішэўскі. «Нацюрморт з маскамі»



М.Бушчык. «

## КРАЯВІДЫ НА РАДЗІМЕ

Мастацтва належыць усяму людству. Гэта выснова бясспрэчная. Але мастак — сын пэўнага народа, носьбіт ягонай генетычнай памяці. Нават калі той народ — адначасна нацыянальная меншасць у якой-кольвек дзяржаве.

Творца з еўрапейскім іменем беларус Лявон Тарасэвіч, выстава якога днямі адкрылася ў мінскім Палацы мастацтваў, жыве ў Польшчы, у вёсцы на беластоцкім сумежжы, пад дахам, дзе жыло не адно пакаленне Тарасэвічаў. На многія творы Лявона натхнілі родныя краявіды, хаця мне, шчыра кажучы, цяжка пазнаць хоць якія рэалістычныя прадметы ці рысы ў манеры майстра. Я не мастацтвазнаўца і не бяруся вызначаць «ізм», у якім працуе жывапісец, але ў асацыяцыі, магчыма, менавіта з ягонай творчасцю мяне не пакідае думка аб звышумоўнасці (а таму — навуковападобнай штучнасці) найменняў мастацкіх плыняў, на якія, роўна як і на грамадскія катаклізмы, выдалася такім ураджайным наша XX стагоддзе. Жывапіс Тарасэвіча надзвычай асабовы, сучасны і дынамічны. Таму, як напісана ў вечнай кнізе, «ідзі і глядзі».

За гадзіну да адкрыцця экспазіцыі была наладжана прэс-канферэнцыя. Да журналістаў мастак з'явіўся ў запэцканым свежай фарбай рабочым камбінезоне, бо толькі-толькі скончыў падрыхтоўку твораў да паказу. Мастак займаўся гэтай працай без перапынку больш за суткі, бо напярэдадні раніцай, прыехаўшы, убачыў свае карціны не толькі змешчанымі ў неадпаведнасці з загадзя прадуманай і перададзенай арганізатарам выставы сістэмай, але і тамсям пашкоджанымі. Гэтыя факты разам з адсутнасцю каталогу (не паспелі надрукаваць, хаця запусцілі ў вытворчасць) і кепска наладжанай рэкламай вельмі засмуцілі аўтара...

Стамлёны голас мастака апавядаў пра нашу гісторыю, пра старадрукі, якія ўтрымліваюць агромністую духоўную энергію, пра Полацк, дзе «Рагнеда была такая гордая»... Ён гаварыў пра тое, што «мастацтва не можа мець палітычнага сэнсу», але калі выпадзе прыехаць яшчэ раз, то «можа, ужо тут будзе Беларусь».

Г.Б.



Г.Гаравая. «Сляпыя». Граніт

Л.Хобатаў. «Гуканне вясны»

# ВЫСТАВЫ

У Рэспубліканскай мастацкай галерэі Саюза мастакоў Беларусі працуюць выставы Лявона Тарасэвіча, Аляксандра і Людмілы Пуцейка.

У Дзяржаўным мастацкім музеі РБ працуе выстава мастакоў творчага аб'яднання «Няміга». Прадстаўлены работы мастакоў Міколы Бушчыка, Галіны Гаравой, Сяргея Кірушчанкі, Зоі Ліцвінавай, Тамары Сакаловай, Альгерда Малішэўскага, Леаніда Хобатава, Анатоля Кузняцова.





А.Кузняцоў. «Песня салаўя»



...а. «Маскі»



С.Кірушчанка. «Дзень зімовага сонцастаяння»

...лянні ўвечары»



Т.Сакалова. «Тыя, што крочаць». Шамот, эмаль

# ІНТАНАЦЫЯ

У панараме сучаснай керамікі разнабаковая творчасць гэтай мастачкі выклікае несумненную цікавасць. Яна валодае шчаслівай здольнасцю лёгка і тонка адчуваць магчымасці матэрыялу, з якім працуе, хутка авалодваць новай для яе тэхнікай. Яе прываблівающь, і ўсур'ёз, мастацтвы самыя розныя. Скончыўшы аддзяленне мастацкай керамікі БДТМІ, Валянціна Грыгарышына паспяхова выступіла ў якасці архітэктара, распрацаваўшы шэраг праектаў рэканструкцыі цэнтра Мінска. Яна займаецца станковым жывапісам, піша краявіды алеем, выконвае манументальныя габелены, сярод якіх шырокую вядомасць набылі «Натхненне» — для Барысаўскага дома культуры і «Залаты сад» — для Пастаяннага прадстаўніцтва Беларусі ў Індыі (сумесна з Г.Гаркуновым), «Шчодрасць зямлі бацькоў» (знаходзіцца ў Музеі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ў Маскве).

Але найбольш яе вабіць, канешне ж, кераміка. Тая кераміка, святочная, натхняючая, напоўненая чалавечай цеплынёй і святлом, без якой сёння немагчыма ўявіць ніводны сур'ёзны інтэр'ер дзяржаўнай установы, офіса, ці жылой кватэры. Высокае прафесійнае мастацтва, свежыя пластычныя формы, зграбнасць ліній і вобразаў уласцівыя такім творам Грыгарышынай, як кампазіцыя «Поры года», «Блакітная планета», «Чаканне», «Прэлюдыя», «Вясёлка», «Адлюстраванне», «Раніца», «Вечар», якія ўпрыгожваюць Бярэзінскі галоўпаштамт і радзільню, Рэчыцкае ГПТВ нафтавікоў і сталічны гатэль «Юбілейны». І ў штодзённым жыцці мастачкі, роўным яе творчасці і толькі творчасці, — адчуваецца памкненне да беспамылковай жаночай дакладнасці фармавання думкі ў слове, інтанацыі, руху.

У мастацтве Грыгарышынай гэта памкненне да дакладнасці ўвасабляецца ў пераканаўчай прастаце вынашанай вобразна-пластычнай ідэі, якая так ярка праявілася ў выразным творы — пяці керамічных пано, прысвечаных Музам, зробленых для фае Палаца культуры вёскі Высцічы, што на Брэстчыне. Ступень канцэнтрацыі ўнутранага пластычнага напружання ў яе творах такая высокая, што ім непатрэбныя якія-кольвек дадатковыя сюжэтна-літаратурныя ці аксесуарна-дэкаратыўныя элементы.

Пікасо звярнуўся да керамікі ў 70 гадоў. Грыгарышына, будзем лічыць, пачынала з яе, аднак, — і ў гэтым яе своеасаблівасць — мастачка заўсёды ішла да керамікі, а не ад яе, рэалізуючы ў гліне страсць жывапісца, вынаходлівасць архітэктара і абвостранае адчуванне скульптара. У гэтай аркестроўцы Валянціна прымусіла гучаць сваю асобую, толькі ёй уласцівую мастацкую ноту.

Жыццё фігуратыўнага аб'ёму ў прасторы ствараецца мастачкай у непасрэдным дыялогу з натурай, але валявы эмацыйны пачатак аўтара такі значны, што пластычная канцэпцыя твора, народжаная разуменнем прыроды, у канчатковым выніку ператвараецца ў маналог пра яе. Гэты маналог — гімн вялікай радасці свабоды чалавечага духу, любові і надзеі.

Барыс КРЭПАК.




*Пойдзем, дзеванькі, мы ў гай гуляць,*
*Завіваць вянкі на ўсе святкі.*

Блізяцца святы найвышэйшага росквіту прыроды, вядомыя пад назвай Сёмухі, Тройцы і Русальнага тыдня. Нашы продкі стварылі маляўнічае разнастайныя абрады, рытуалы, песні, карагоды, прыгаворы — сапраўдны гімн маці-прыродзе, калі яна ў найвышэйшай Зялёнай магічнай сіле і сваімі гаючымі лекамі ўздымае чалавека да радаснага, аптымістычнага самапачування.

Няма сумнення, што выдатная эстэтыка Зялёных Святак па сваёй тэатралізаванасці не толькі не ўступае Зімовым Святкам — свайму сонцавароту-адпаведніку напрадвесні, — але ў нейкім сэнсе з'яўляецца як бы ягонай супрацьлегласцю. Калі там пануюць татэмныя продкі, жывёлы (больш позняга перыяду яднання з прыродаю) у вобразах-масках Мядзведзя, Казы, Кабылкі, Жорава, Бусла, то тут безраздзельна пануе Дрэва Сусвету — ўсеагульнае старажытнейшае ўяўленне аб космасе і чалавеку, у якое ўкладваюцца ўсе нашы веды аб навакольным свеце.

У нашай хрысціянізаванай свядомасці ўяўленне аб Зялёных Святках звязана з Тройцай (трыядай Бог-бацька, Бог-сын і Бог-дух святы). Толькі дасведчаныя ведаюць старажытную першаснову гэтага міфа, дзе бацька-стваральнік — Сонца, сын яго адзінародны, свет ад свету — Агонь, народжаны ад Маі (абагульненая назва ўсяго раслiннага свету).

Тройца Дрэва Сусвету — голле, ствол і карані — у агульназямным вымярэнні — гэта неба, атмасфера і зямля, у чалавечым — галава, тулава, ногі, у традыцыйнай культуры — мінулае, сучаснае, будучае. Гэтая Тройца пранізвае ўсю традыцыйную культуру і фальклор як яе аснову: тройчы паўтараюцца рытуалы і замовы, трыяда рухае сюжэт казкі і эпічных песень.

Трыяда (Каляда, Вялікдзень і Купала) ляжыць у аснове беларускага святочнага календара — адпаведна абуджэнне прыроды, новы год па сонечнаму календару і пачатак адмірання раслiннасці (прыйшоў Пятрок — апаў лісток).

Цікава, што менавіта з Тройцай злучалася выключная для захавання нацыянальнай самабытнасці беларусаў вера ў Дзядоў. Апошнія ў сёмушную суботу адзін раз на год мелі магчымасць выйсці на свет (таму ў гэты дзень абмяталіся магілы), каб паглядзець, як нашчадкі захоўваюць традыцыю, вядуць гаспадарку. Вынікам для жывых маглі быць або дапамога за павагу да традыцыі або пакаранне за нядбальства. Таму ад беларуса можна пачуць перакананне: «Яны ўсё бачаць, яны ўсё ведаюць!» Скажаце, а што галоўныя, Змітраўскія Дзяды? А яны, здаецца, сімвалізуюць не толькі смерць прыроды-Маі, але і заканчэнне жыццёвага шляху чалавека, таму што асноўнае на іх святкаванні — позірк у мінулае, на пройдзены Дзядамі шлях.

Гістарычная Піншчына захавала унікальны матрыярхальны звычай ваджэння Куста, антрапаморфны вобраз якога ўвасабляе культ раслiннасці і ўрадлівасці. Рызыкнём выказаць думку, што пазнейшы Вялес, апякун земляробства, жывёлагадоўлі, святароў і ўладар душ продкаў, якога большасць даследчыкаў справядліва лічыць галоўным у агульнабеларускім пантэоне, вырас на гэтай больш старажытнай глебе.

Як жа святкуецца Тройца на Беларусі? Ужо на пачатку Сёмухі (сёмага тыдня пасля Вялікадня) людзі пачыналі прыпадаць да Маі. Збіралі травы, упрыгожвалі пабудовы зелянінай, сцежку да дома абстаўлялі папарна бярозкамі, падлогу ў хаце і сцежкі ўсцілалі «панамі» — аерам, плялі вянкі і пускалі іх на ваду, праз сплецены з клёну вянок даставалі з калодзежа ваду і палівалі ёю грушы, вішанькі і яблыні, рабілі мноства іншых магічных дзеянняў. Яны павінны былі, так бы мовіць па-сучаснаму, перанесці біяэнергію Маі на людзей, ацаліць іх, пазбавіць невылечных хвароб, даць моц, сілу, здароўе перад цяжкай летняй працай, паклікаць дождж, хуткі рост раслін.

Песні, карагоды пачыналіся на Семік у чысты чацвер. Дзяўчаты, як носьбіты чысціні, ішлі ў гэты дзень у лес, «завівалі вянкі на ўсе святкі» — плялі іх з галінак бярозы, якая лічылася сімвалам цноты. Прыгожа спявалі выключна багатыя па мелодыцы сёмушныя песні:

*Пойдзем, дзеванькі, мы ў гай гуляць*
*Да вянкі заўём, да на ўсе святкі.*
*На духаўскія, на пятроўскія,*
*Ой, што дух-тройца — то субор дзеўкам.*

*Ай, не радуйся, зялёны дуб,*
*Не к табе ідзём вянкі віць.*
*Ай, узрадуйся, бяроза белая,*
*Мы к табе ідзём вянкі віць.*

Дзяўчаты-сяброўкі ў гэты дзень «куміліся» да наступнай Сёмухі (цалаваліся пад аркай звязаных за голле бярозак), пасля чаго павінны былі спрыяць адна адной.

У нядзелю на саму Тройцу, або ў некаторых вёсках у панядзелак, на цэнтральным Палессі самую прыгожую і маладую дзеўку вялі ў лес і пад адпаведныя песні ўбіралі за кляновы Куст, прыводзілі ў вёску і спявалі:

*Ой, мы былі ў вялікім лесе,*
*Звілі Куста з зялёнага клёну.*
*Да й прывялі Куста да слаўнага двору.*
*Выйдзі ж, пане, з новага пакою.*
*Да не тут Кусту стаем стаяці,*
*Трэба нашаму Кусту півці-есці даці,*
*Трэба нашаму Кусту з крынічкі вадзічкі,*
*Трэба яму, трэба панчошкі, чаравічкі.*
*Ой, дзень добры, наш пане, да хаты,*
*Ой, ці вяліш нашаму Кусту стаці,*
*Бочку мядочку прыпявальнічкам даці,*
*Нам маладзенькім на ганачку пагуляці.*

Самае старажытнае, традыцыйнае ўяўленне аб русалцы як аб сімвале ўрадлівасці: «Тоўстая каменная баба з жалезнымі цыцкамі стаіць у жыце».

Русалкі могуць быць добрыя і злыя. Таму іх баяліся. Пазней на гэты вобраз наслаіліся хрысціянскія ўяўленні: дзіця, якое памерла нехрышчоным, падманутая дзяўчына-самагубца, тапельніца. Апошнім паэты-рамантыкі надалі рысы прыгожай дзяўчыны з рыбіным хвастом і луской замест скуры.

Прыгожы паўднёва-ўсходні абрад «Провады русалкі» мае два земляробчыя магічныя варыянты: абход жытняга поля для засцярагання яго ад граду, навальніцы, засухі, полымя. Узначальвала шэсце голая дзяўчына-русалка з распушчанымі доўгімі валасамі, а за ёй ішоў гурт дзяўчат, хлопцаў, дзяцей. У другім варыянце хлопцы і дзяўчаты павінны былі завесці русалку ў жыта і, не азіраючыся, уцячы ад яе. Пакінутая русалка павінна была прынесці добры ўраджай.

З-за насычанасці песнямі, танцамі, гульнямі, карагодамі русальны тыдзень звалі «грамным», і часцей за ўсё ў гэты час спявалі наступныя песні:

*Праваджу русалку із бору да бору,*
*Рана-ранюсенька із бору да бору.*
*Із бору да бору ў зялёну дуброву,*
*Каб не ласкаталі, узімку не ляжалі.*
*Узімку не гукалі, улетку не пужалі,*
*Праваджу русалку ў зеляное жыта.*
*Там русалкі ў жыце зялёным сядзелі,*
*А мой каласочак, як яваровачак,*
*А мая жыцінка, як праскурачка.*
*У печы піражком, на стале калачком.*

*На гранеі нядзелі русалкі сядзелі,*
*Рана-ранюсенька русалкі сядзелі.*
*Русалкі сядзелі на дзевак глядзелі.*
*Дзевачкі-сястрычкі, падайце вадзічкі.*
*Падайце вадзіцы з халоднай крыніцы.*
*З халоднай крыніцы*
*ды з-пад той вярбіцы.*
*Падайце вадзіцы душу прычасціці.*
*Душу прычасціці, жыццё вараціці.*
*Тады будзем з вамі краскі сабіраці,*
*Краскі сабіраці, песенькі спяваці.*

Яшчэ нядаўна пад уплывам праваслаўя насаджалася думка, што Тройца ў беларусаў бедна распрацавана, бо ў сваёй свядомасці беларусы засталіся язычнікамі.

І ў палякаў, і ў сербаў, і ў балгар былі свае «гаёўкі», «краліцы», «дадолы», «май». Але толькі цяпер, на наша шчасце, пачынаем развейваць навязанае беларусам уяўленне, што Зялёныя Святкі мала распрацаваны як з'ява мастацкая. Усё наадварот. Зялёныя Святкі беларусаў гучаць як прыгажэйшы песенны гімн, які выключна захаваўся, пераканацца ў чым дапаможа тэлеперадача «Запрашаем на вячоркі», якая будзе паказана на Тройцу (6.06.1993 года). Культработнікам, якія рыхтуюць свята, раім звярнуцца да трох кніг са зводу БНТ «Веснавыя песні», «Земляробчы каляндар», «Паэзія беларускага земляробчага календара» і зборнікаў традыцыйнага фальклору Брэсцкай і Гомельскай абласцей, якія выдадзены НДЛ беларускага фальклору БДУ.

Адносна вольны час, прыгожыя краявіды, звычайна цёплае сонечнае надвор'е даюць магчымасць зрабіць Зялёныя Святкі сапраўдным святам для душы кожнага чалавека, часткай нацыянальнага Адраджэння. У гэтым годзе яны яшчэ ўпрыгожацца рэспубліканскай канферэнцыяй «Фальклор як сродак выхавання нацыянальнай свядомасці» і фестывалем дзіцячых, маладзёжных і вясковых фальклорных калектываў, якія пройдуць на Сёмуху і на Тройцу 3 — 6 чэрвеня на філфаку БДУ (К.Маркса, 31).



# ТРЫ ГАДЗІНЫ СВЯТА, або ЗАХОДЗЬЦЕ, КАЛІ ЛАСКА!




— Я родам з такое ж хаты, — сказаў Іван Пятровіч Рэй, мастак-жывапісец з Менску, ледзь толькі мы, гурт цікаўных экскурсантаў, пераступілі парог старой, але моцнай драўлянай будыніны пад саламянай страхой.

Хто ведае, чаго болей было ў гэтым шчырым прызнанні: гонару за прыналежнасць да працавітага і здольнага сялянскага роду (умеем будаваць на добрых сто гадоў) ці, можа, шкадавання: у бацькоў, маўляў, былі свае, і някепскія, хаты, а ў нас — няма. А можа, тут быў смутак? Мы, «родам з хат», зрабіўшыся гарадскімі, сталі забываць, як выглядалі некалі родныя хаты.

Іван Пятровіч пісаў карціну «У піліпаўку». Сюжэт просты: галодны воўк блізка-блізка падышоў да чалавечага жытла, зазірае ў вакно... Дык вось, менавіта гэтае вакно Іван Пятровіч прыязджаў маляваць сюды, у Строчыцу — память не захавала



патрэбных дэталяў з далёкага дзяцінства...

А хата гэтая сапраўды унікальная. Пабудаваная на пачатку XX стагоддзя, яна была перавезена сюды ў 1984 г. з вёскі Ісерна Слуцкага раёна і стала, бадай, першым экспанатам першага на Беларусі Музея народнай архітэктуры і побыту, распачаўшы сядзібную забудову і адметнасць тыповай вясковай вуліцы Цэнтральнай Беларусі, дзе хаты-двары месцяцца адна ля адной па адзін бок. Гарманічна і велічна паўсталі тут драўляная царква з вёскі Логнавічы (ёй каля трохсот гадоў), карчма пачатку XIX ст. Аднаўляецца школа — вельмі няпросты архітэктурны ансамбль... Каля трыццаці помнікаў народнага дойлідства з усіх куточкаў Беларусі сабраліся ў гэтым маляўнічым, надзвычай прыгожым месцы недалёка ад Менска.

Музей пад адкрытым небам расчыніў свае дзверы для наведнікаў. Калі ласка, заходзьце! Якраз 18 мая, у Міжнародны дзень музеяў, па звыклай, добрай традыцыі адбылося ўрачыстае адкрыццё сезона. Прыехалі вучоныя-даследчыкі з Акадэміі навук, галоўны архітэктар сталіцы, тыя, хто непасрэдна спрычыніўся да арганізацыі і стварэння музея — будаўнікі, рэстаўратары, навуковыя супрацоўнікі, тэхнічныя работнікі, завітаў нават участковы. Як хацелася думаць, што лейтэнант міліцыі прыйшоў сюды не толькі з мэтаю службовых абавязкаў, але й па закліку душы.

Нядоўгай, але цёплай, светлай і шчырай была прамова Георгія Андрэевіча Ткацэвіча, дырэктара музея. Ён знайшоў магчымасць сказаць добрае слова пра кожнага, хто хоць нешта рабіў і робіць для музея, для адраджэння беларускай культуры, традыцый і звычаяў народа, для выхавання і нармальнага, годнага пачування беларусаў як у сябе дома, так і за межамі краіны.

... А свята, спеўнае, квяцістае, звонкае ды прыгожае стварылі... дзеці. Дзяўчаткі з фальклорна-этнаграфічнага ансамбля «Жалейка» (клуб Мінскага завода вылічальнай тэхнікі, кіраўнік Людміла Рыжкова) на ўсе галасы гукалі вясну, якая цвіла і буяла квеценню бэзу і чаромхі навокал. Вадзілі карагоды, у гульнях-танцах «сеялі лён» і «садзілі грушку». Да дзяўчат далучыліся іх равеснікі — хлапцы-малайцы ў традыцыйным нацыянальным адзенні ды ў хромавых ботах...

Праўда, маленькай цёмнай хмарцы-капрызулі чамусьці не спадабаліся звонкія спевы ды вясёлыя скокі. Засердавала яна раптам (мо ад зайздрасці?) і запырскала халоднымі дажджынкамі, ды так злосна, што давялося ўсім схавацца ў памяшканне. Канцэрт «Жалейкі» — своеасаблівая справаздача за год працы — на апошніх нумарах спыніўся, а ў гледачоў выспела адна, найвышэйшая адзнака: малайцы!

У бажніцы, куды ўсе збеглі ад дажджу, высока лунаў і кранаў сэрцы непаўторны, надзвычай багаты голас заслужанай артысткі рэспублікі Тацяны Мархель. Яна распавяла прысутным біблейскую гісторыю народзінаў Хрыста. Яна спявала пра радасць народзінаў дзіцяці ў звычайнай хаце. Яна песціла немаўля калыханкамі, яна яго гадавала, яна яго жаніла і выдавала замуж. То былі пяшчотныя і журботныя, і вельмі смешныя, са здаровым народным гумарам, песні.

Суправаджаў незвычайную спеўную дзею Тацяны Мархель незвычайны музычны акампанемент — скрыпка, дуда, дудачка, ліра. Ігралі на гэтых інструментах, як заўсёды на сапраўдных беларускіх імпрэзах, наш вядомы музыка Уладзімір Пузыня і ягоны сын Алесь. Ліра ў Пузыняў — вельмі стары інструмент, адрэстаўраваў яе Уладзімір Якаўлевіч зусім нядаўна, патраціўшы на тое шмат часу і сіл.

Заўсёды з цікавасцю гляджу на гэтых музыкаў. Пачынае зазвычай першым Алесь. Потым тэму падхоплівае, развівае, вядзе на якім іншым інструменце бацька. А то ўдвох наладзяць такі канцэрт, што душа радуецца. Так могуць тварыць толькі вельмі блізкія, вельмі родныя людзі, здольныя чуць і разумець адно аднаго, як кажуць, з паўслова.

На тэрыторыі музея-запаведніка неяк здымаўся фільм «Сымон-музыка». Галоўныя ролі запрасілі выконваць Уладзіміра Якаўлевіча і Алеся. Абодва — яркі беларускі тыпаж, Алесь бездакорна іграе на скрыпцы, па сутнасці жыве музыкай ды ў музыцы. Але, паводле сцэнарыя, бацьку, селяніну і гаспадару, не надта падабалася сынава захапленне. Якая скрыпка, калі процьма работы! Затурканы і стомлены, ён за нейкую правіну кідаецца на дзіця, ледзь не разбівае скрыпку і, ашалелы ад злосці, выганяе хлопчыка з хаты. (З тае самае, пра якую мы згадвалі з самага пачатку.)

Яснавокі, светлавалосы, ні ў чым не вінаваты і безабаронны Сымон-Алесь, унурыўшы галаву ў плечы, кіруе напраcткі, ля царквы, каля крыжа, абмінаючы карчму, пыльнаю дарогаю далей і далей. Куды?

А бацька глядзіць услед, і сэрца яго заходзіцца ад жалю. Пузыня-актор, Пузыня-бацька адчуў, уявіў раптам, што гэта сапраўды адыходзіць ягоны родны сын, не зразуметы, пакрыўджаны, сын, якому Бог даў талент разумець найтанчэйшыя гукі прыроды і перадаваць іх сваёю чароўнаю скрыпкай. І бацькавы вочы заслалі слёзы, зусім не прадугледжаныя сцэнарам.

Думаю, чытач даруе мне гэтае не-



вялічкае лірычнае адступленне ад тэмы. Зроблена гэта свядома. Так, свядома і ў звязку з тым, што музеі, іх экспанаты — гэта не нешта застылае і бязмоўнае. Магчыма, экспазіцыі некаторых музеяў выклікаюць у наведнікаў сум і пазяханне. Але такога не можа быць у музеі пад адкрытым небам. Тут усё жывое, усё сапраўднае: дарогі, лагчыны, рэчкі Пціч і легендарная Менка, дрэвы і кусты, трава пад нагамі, курганы і валуны, калодзежы і ветракі, цэрквы і хаты... Тут можна вандраваць па адметных, своеасаблівых геаграфічна-этнаграфічных рэгіёнах Беларусі (а іх у структуры музея —7) разам з экскурсаводам, а можна абысціся і без яго.

Гурткоўцы студыі відарыснага мастацтва «Каляровы аловак» (клуб завода вылічальнай тэхнікі, кіраўнік Ірына Фокіна), дзеці ад 4 да 14 гадоў да свята музея падрыхтавалі свае лепшыя работы і тут, у прасторным, так званым грамадскім свірне мінулага стагоддзя, разгарнулі выставу малюнкаў. Гэтая выстава ўплятала ў агульную канву свята свой непаўторны ўзор. Адна госця вельмі хацела купіць упадабаны ёю малюнак, але малюнкі дзеці не прадавалі. Бачачы засмучэнне жанчыны, адзін з юных мастакоў выдраў з блакнота лісток і працягнуў ёй. Там быў намаляваны (толькі што) лёгкі, грацыёзны млын-вятрак з Паазер'я...

Заканчваецца навучальны год. Многія бацькі ў клопатах: куды падзець, чым заняць сваіх дзяцей? У кожнага, безумоўна, свае планы, свая, так бы мовіць, культурная праграма на лета. І ўсё ж я наважваюся ў якасці падказкі параіць бацькам, настаўнікам, кіраўнікам студый і гурткоў па магчымасці наведаць з дзецьмі Беларускі музей-запаведнік «Менка», музей пад адкрытым небам, што размешчаны паміж вёскамі Азярцо, Воўчкавічы, Гарадзішча, Строчыца ў Мінскім раёне. Дальбог, не пашкадуеце. Грашова гэтая вандроўка абыдзецца не надта дарага, а карысці можа прынесці шмат. Тэлефоны для даведак: 33-42-21; 99-33-71.

І яшчэ, у якасці той жа неназойнай падказкі, я называю тры словы: род, народ, радзіма. Заўважце: у іх адзін і той жа корань...

**Алена ТРУСАВА.**

*На здымках:*
У Музеі пад адкрытым небам. 18 мая 1993 г.
**Фота Міколы МІНІЧА.**

---

РЭЧЫ ВАКОЛ НАС

# «БЯШЭ ХЛЕБ З АЛЕЕМ НА СКАВРАДЕ ПРАЖАНЫ...»

Усе добра ведаюць яе вялікасць патэльню, на якой гатуецца смачная смажаная бульба, румяныя аладкі ды хрумкастыя грэнкі. Гэты звыклы для кожнага, неад'емны атрыбут хатняй гаспадаркі мае вельмі даўнюю і цікавую гісторыю.

Самая старажытная патэльня была знойдзена на адным з астравоў Эгейскага мора ля берагоў Грэцыі. Круглае формы, зробленая з гліны, яна мела невысокі борцік і была забяспечана рагулькападобнаю ручкаю. Археолагі датуюць знаходку III-II тысячагоддзем да н.э.

На тэрыторыі Беларусі першыя знаходкі такога тыпу кухоннага посуду адносяцца да III-V стагоддзяў н.э. Яны мелі невялікі дыяметр і невысокі борцік. Патэльні VII-IX стагоддзяў былі большыя — дыяметр 16 — 18 см і борцік вышынёю 2,5 — 2,7 см. Менавіта такія патэльні з гліны знойдзены падчас раскопак селішчаў у вёсцы Чапліна і Тайманава Быхаўскага, гарадзішча Хатомель Столінскага раёнаў, гарадзішча ў Чачэрску, а таксама на рацэ Менцы — у 16 км на захад ад Менска.

У XII стагоддзі з'яўляюцца жалезныя патэльні паўсферычнай формы дыяметрам 18 — 22 см і глыбінёю 1,7 — 3 см (знойдзены ў Віцебску, Лукомлі і Слуцку).

Вельмі цікавая патэльня трапілася нам на Верхнім замку ў Віцебску ў пласце канца XIIIст. Выраблена яна з меднага ліста таўшчынёю 2 — 3 мм. Дыяметр 32 см, вышыня борціка 7 см. Аб'ём патэльні 4,5 літра. Да патэльні мацавалася жалезная чапяла з полаю ручкаю, якая насаджвалася на драўляны кіёк. Відаць, патэльня мела нейкую каштоўнасць для гаспадара, ён не хацеў яе страціць, неаднойчы рамантаваў. На патэльні зроблена 10 заплатак з кавалачкаў ліставой медзі.

Як жа даўней называлі нашы продкі патэльню? У пісьмовых крыніцах XI — XIII стст. яна вядомая пад назваю «скара», або «сквара». Ці не адсюль наша беларускае слова «скварка»? У адной з кніг Францішка Скарыны чытаем: «Бяшэ хлеб з алеем на скаврадe пражаны...» У адным з інвентароў,



што датуецца 1569 годам, упершыню гучыць слова «петэлня», якое, відаць, трапіла ў беларускую мову з французскай (poêle — скаварада) праз Польшчу. Можа, і пражаны хлеб на алеі, вядомы пазней пад назваю грэнкі, прыйшоў на Беларусь з французскае кухні?

**Лявон КАЛЯДЗІНСКІ.**




**Вера Рамук нарадзілася ў Глыбокім, але з 1949 года жыве ў ЗША. У Чыкага — з 1964 года. Разам з мужам, Вітаўтам Рамуком, вядзе актыўную грамадскую дзейнасць, наладжваючы беларускія імпрэзы і выставы ў Амерыцы, прапагандуючы беларускую нацыянальную ідэю і духоўную спадчыну Беларусі. З'яўляецца старшынёй Беларускага каардынацыйнага камітэта ЗША.**

**У ліпні гэтага года Вера Рамук збіраецца прыехаць у Менск на з'езд беларусаў свету.**

**Спадзяюся, што яе ўспаміны пра сустрэчу з Маркам Шагалам будуць сёння надзвычай цікавыя беларускаму чытачу.**

**Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ, Чыкага.**

# СУСТРЭЧА З МАРКАМ ШАГАЛАМ





*Беларускі культурны цэнтр «Полацак» (г. Кліўленд).*

Быў год 1974-ты. Сталася гэта неспадзявана і непрадбачна. У Чыкага тады гатаваліся да адкрыцьця мазаікі Марка Шагала на пляцы Першага Нацыянальнага Банку. Марка Шагала рэклямавалі тут як ураджэнца Віцебска ў Расеі, што вельмі абурыла нас, амэрыканцаў, якія радзіліся ў Беларусі.

Беларускі Каардынацыйны Камітэт у Чыкага (штат Ілінойс) пад маім кіраўніцтвам паўзяў акцыю спраставаць фальшывыя весткі аб Марку Шагалу. Ліст, інфармуючы аб праўдзівым месцы нараджэньня, быў прыгатаваны мною і пэрсанальна даручаны на тэлевізыйныя станцыі, радыё і ў газэты. Адна з тэлевізыйных станцыяў, прачытаўшы мой ліст, папярэдзіла мяне, што мэр гораду прыгатаўляе праклямацыю ў сувязі



*Пляц 1-га Нацыянальнага банку ў Чыкага.*

з адкрыцьцём мазаікі і што ў праклямацыі Марк Шагал будзе запісаны, што ён родам з Расеі. Дырэктар праграмаў параіў мне ехаць у Гарадзкую Управу як найхутчэй і паведаміць мэра Рычарда Дэйлі, што Марк Шагал родам з Віцебску ў Беларусі.

Калі я прыехала ў Гарадзкую Управу, на калідоры я напаткала палкоўніка Джэка Райлі, дырэктара імпрэзаў у горадзе Чыкага. Я добра яго ведала з выставак, якія ладзіліся мэрам Р.Дэйлі кожнага году, пачынаючы з 1959-га. Ён адразу пацікавіўся, у якой справе я прыйшла. Калі я яму сказала, што ў справе Шагала і яго прыналежнасьці да Беларусі, дык ён спачатку зьдзіўлена заявіў: «А што за розніца?». А я адказала яму так: «Кожная птушка мае сваё гняздо, а гэтым гняздом для Марка Шагала была Беларусь, а не Расея. А калі б Марк Шагал нарадзіўся ў Ірляндыі (палкоўнік Джэк Райлі, як і мэр Рычард Дэйлі, — амерыканцы ірляндзкага паходжаньня), а яго запісалі б з Англіі, ці Вы не пратэставалі б?». Крыху падумаўшы, ён папрасіў пачакаць, а сам накіраваўся ў бюро мэра, паглядзець, ці праклямацыя ўжо падпісана.

Калі палкоўнік Д.Райлі вярнуўся, ён паведаміў мне, што праклямацыя яшчэ не падпісана і што мэр згадзіўся ўнясці папраўку.

Вечарам, калі я вярнулася дахаты, а была ўжо сёмая гадзіна, зазваніў тэлефон і, к майму вялікаму зьдзіўленьню, гэта быў заступнік прэзідэнта 1-га Нацыянальнага банку. Ён паведамляў, што даведаўся ад мэра Дэйлі: Марк Шагал ня ёсьць расейцам, а паходзіць з Беларусі, ды што ён запрашае мяне і другіх беларусаў прыйсьці на прэс-канфэрэнцыю, якая адбудзецца назаўтра, 26-га верасьня а 2-й гадзіне пасьля абеду ў аўдыторыі банку, ды адначасна і на адсланеньне мазаікі. Я падзякавала яму за ўвагу.

Канфэрэнцыя пачалася, як і раней назначана, а 2-й гадзіне пасьля абеду, і прысутных паведамілі, што Марк Шагал сам ня зможа быць і што яго будзе заступаць і адказваць на пытаньні яго жонка, спадарыня Вава Шагал, ды што а палове пятай пасьля абеду Шагал будзе ехаць на банкет, і хто мае жаданьне, можа тады пабачыць яго, бо лімузына затрымаецца каля банку на некалькі хвілін.

У часе канфэрэнцыі я паставіла пытаньне спадарыні Шагал: адкуль паходзіць Марк Шагал. Яна заявіла перад усімі прысутнымі, што з Беларусі. Калі канфэрэнцыя закончылася, дык усе ўдзельнікі яе былі запрошаны на агляд мазаікі, што мела быць прадстаўлена назаўтра раніцай. Тут мне была нагода бліжэй пазнаёміцца са спадарыняй Вавай Шагал. Гэта перадусім мудрая, сціплая і вельмі сымпатычная жанчына. Мне прыйшлося шмат з ёй гутарыць. Аб мазаіцы яна сказала так: «Гэта ўсё, што Вы тут бачыце, прадстаўляе радзімую Беларусь Марка».

А палове пятай мы накіраваліся на ходнік перад мазаікай, пакрытай трампалінай. Неўзабаве затрымалася чорная лімузына, і на ходнік вуліцы выйшаў Шагал і прывітаўся з публікай, жадаючай пабачыць яго. Я выцягнула з тарэбкі паштоўку з партрэтам работы Марка Шагала, прадстаўляючым «Рабіна з Віцебска», ды кажу яму: «Спадар Шагал, я з Беларусі і хацела б мець Ваш аўтограф». Яго вочы загарэліся, як сонечныя праменьні: «Гэта ж мая любімая Беларусь таксама». Бярэ паштоўку ды падпісвае яе. Пасьля гэтага бярэ Ваву за руку. Яны сядаюць у лімузыну ды едуць на прызначаны банкет.

27-га верасьня ў 11.30 на плошчы перад банкам сабралася 10-тысячная грамада. Нам таксама было прызначана месца з прывітальнымі плякатамі па-беларуску і па-ангельску: «Вітаем нашага земляка Марка Шагала з Віцебска, Беларусі». Праграма трывала гадзіну часу — прамовы, музычныя і харавыя выступленьні, наданьне ўзнаньня для Шагала. Пасьля паўгадзіннага перапынку адбылося прыняцьце для запрошаных гасьцей — музычнага, артыстычнага, мастацкага, літаратурнага і палітычнага сьвету ды дыпляматаў-консулаў з іх сем'ямі, у тым ліку і прадстаўнікоў ад Беларусі ў асобах спадароў Вітаўта і Веры Рамукоў.

Усё, што ладзілася ў сувязі адсланеньня мазаікі, было вельмі ўзрушаючым для нас. Марк Шагал — гэта вялікі Божы чалавек.

Яшчэ два мастацкія творы Шагала былі адслонены ў Чыкага пазьней — 15-га травеня 1977 г. «Вокны*» ў гонар 200-леція Амэрыкі» ў Інстытуце Мастацтваў і габэлен, прадстаўляючы жыцьцё і цярпеньні Ёва, — у Інстытуце Рэгабілітацыі 20-га чэрвеня 1986 г.; гэты апошні ўжо пасьля сьмерці Марка Шагала.

**Вера РАМУК.**

Чыкага, 1993 г.

**Фота С. ПАНІЗЬНІКА.**

* — вітражы. Артыкул друкуецца ў арфаграфіі арыгіналу.



*Вера і Вітаўт Рамукі і Сяргей Панізьнік на фоне мазаічнага пано «Чатыры пары года».*

# «Я ХАЧУ СТВАРЫЦЬ ІНШЫ СВЕТ...»

*Гутарка з галоўным рэжысёрам Магілёўскага абласнога тэатра лялек Алегам ЖУГЖДАМ*

*У XVII — пачатку XIX стагоддзя на землях Віцебшчыны, ды і наогул Беларусі, былі надзвычай папулярнымі прадстаўленні школьных тэатраў, што існавалі пры езуіцкіх акадэміях ды семінарыях. Асабліва ж вылучаўся мастацкім узроўнем пастановак тэатр Полацкага езуіцкага калегіума, які праіснаваў аж да 1819 года. У Полацкай вучэльні займаўся славуты беларускі пісьменнік, якога смела можна паставіць на адзін узровень з Жукоўскім, Гогалем, Гофманам, іншымі выдатнымі расейскімі ды заходнімі рамантыкамі. Яго імя — Ян Баршчэўскі. Галоўная кніга, напісаная ім, — «Шляхціч Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях». Яе параўноўваюць то з арабскім эпасам «Тысяча і адна ноч», то з гогалеўскімі «Вечарамі на хутары паблізу Дзіканькі», то з несмяротным «Фаўстам».*

*І сапраўды, у кнізе ёсць навела «Вогненныя духі», дзе распавядаецца пра тое, як адзін малады чалавек, каб ашчасліваць сваю каханую, што прагнула толькі грошай ды багацця, прадаў сваю душу д'яблу. Малады беларускі драматург Уладзімір Граўцоў стварыў арыгінальную драматычную версію паводле гэтай навелы. У выніку атрымалася п'еса пра тое, як беларус дзеля ўяўных каштоўнасцяў адмовіўся ад сапраўднай духоўнасці. Твор вельмі зацікавіў маладога рэжысёра-лялечніка Алега Жугжду і калектыў Беларускага тэатра «Лялька» з горада Віцебска. І вось напрыканцы красавіка адбылася прэм'ера спектакля «Загубленая душа, альбо Пакаранне грэшніка». Дыдактычная драма для дзяцей і старэйшых у выкананні шкаляроў Полацкага езуіцкага калегіума —так вызначаны жанр новага спектакля. Дарэчы, у спектаклі заняты толькі акцёры-мужчыны. Яны, між іншым, выконваюць і жаночыя ролі. Традыцыя антычнага тэатра, якая потым перайшла ў тэатр Шэкспіра, ды і ў тэатры езуітаў яна была захавана...*

*З Алегам Алегавічам я, пачынаючы загадчык літаратурнай часткі лялечнага тэатра, упершыню ўбачыўся ды пазнаёміўся ў Брэсце, на прэм'еры «Зязюлькі» У.Граўцова. Памятаю, наколькі мяне ўразіў гэты спектакль, і як мне захацелася, каб і віцебскія гледачы ўбачылі нешта падобнае. І вось доўгачаканая сустрэча. Алег Жугжда, на гэты час ужо галоўны рэжысёр Магілёўскага лялечнага тэатра, запрошаны для пастаноўкі «Загубленай душы». У перапынку паміж рэпетыцыямі мне ўдалося ўзяць у рэжысёра невялікае інтэрв'ю, якое я і прапаную ўвазе чытачоў газеты «Культура».*

**Юрась ІВАНОЎСКІ.**

**— Алег Алегавіч, наколькі я чуў, Вы ўжо не ўпершыню ў Віцебску. Раней Вы тут працавалі як акцёр?**

— Так, я пачынаў у тэатры «Лялька». Праўда, зусім нядоўга я працаваў тут акцёрам. Гэта было ў 1986 годзе.

**— Вы лічыце сябе традыцыяналістам ці авангардыстам?**

— З аднаго боку я лічу сябе кансерватарам. Усе формы, якія мы прыдумляем, ужо даўно існуюць. Іншая справа, якім зместам мы іх напаўняем. Ці не таму вельмі часта добра забытае старое глядзіцца як новае.

**— Некалі ў тэатральным асяроддзі была вельмі папулярная кніга Джона Іаснэра «Форма і ідэя ў сучасным спектаклі». Чаму Вы аддаеце перавагу ў мастацтве, творчасці — форме ці ідэі? Хоць відавочна, што такі падзел вельмі ўмоўны.**

— Я менш за ўсё думаю пра чысціню формы, пра яснасць ідэй. Я раблю спектакль таму, што мне заўсёды хочацца стварыць іншы свет, у якім я не быў дагэтуль. Кожны раз ствараю мадэль гэтага свету, у якім хочацца пажыць на дадзеным адрэзку часу.

**— Яшчэ на прэм'еры спектакля «Зязюлька» я заўважыў, што Вы даволі свабодна вар'іруеце часам, прасторай, не імкняцеся да адзінства стылю. Вы свядома імкняцеся да эклектыкі?**

— Свабоднае вар'іраванне — гэта свядомы выбар. Нас доўгі час вучылі, што трэба захоўваць нейкі адзіны стыль, усё падпарадкоўваць нейкай адной ідэі. Калі ідзе размова аб стварэнні другой рэальнасці, нельга сябе занявольваць. Магчыма ўсё, што магчыма.

**— Вы ставілі спектаклі ў розных тэатрах: у Магілёве, у Брэсце, у Дзяржаўным тэатры лялек Рэспублікі Беларусь у Менску (здаецца, «Слоніка» Кіплінга?). Зараз вось Віцебск, зусім хутка паедзеце на разавую пастаноўку ў Гародню. А дзе было працаваць цікавей?**

— Гэта вельмі складанае пытанне. І зусім не ў тым плане, каб некага не пакрыўдзіць. Заўсёды цікава працаваць у новым калектыве. У кожным тэатры ёсць свае станоўчыя і адмоўныя бакі. Кожны спектакль — гэта заўсёды складана. Тым больш, калі запрашаецца новы рэжысёр.

**— Давайце, нарэшце, звернемся да «Загубленай душы». Чым Вас захапіла проза Баршчэўскага і п'еса Граўцова?**

— Баршчэўскі — гэта шчаслівае адкрыццё, шчаслівая знаходка, гэта новы набытак беларускага тэатра. Я не чакаў, што ў беларускай літаратуры існуе такі аналаг Гогалю. Зусім неспадзявана з'явіўся Баршчэўскі са сваім дзівосным сюжэтам, сваімі героямі. І ўсё ў яго творах глядзіцца праз прызму беларускага менталітэту. Цяпер пра Граўцова. Я лічу сябе ягоным хросным бацькам у тэатры. У 1988 годзе, калі я працаваў у Магілёве, ён прынёс да мяне п'есу «Міхей-шавец і Марцін-кравец». У нас былі агульныя мэты, ідэалы, погляды на жыццё. Чаму мы разышліся, гэта ўжо нашы асабістыя справы. Паколькі ў сучаснай драматургіі я не магу знайсці цікавага мне матэрыялу, то я і звяртаюся да класікі. Застаецца альтэрнатыва: альбо сусветная класіка, альбо пастаноўка спектакля па сцэнарнаму плану заходняга ўзору — ідэя аднаго чалавека, сцэнарый іншага чалавека. Спачатку ідзе задума, пасля яе літаратурнае ўвасабленне.

**— Ці ёсць у Вас з Граўцовым нейкія новыя задумы, ці мяркуецца далейшае супрацоўніцтва?**

— У перспектыве не. Хоць я такую магчымасць і не выключаю.

**— Я чуў, што вашы спектаклі часта паказваюцца на міжнародных тэатральных фестывалях.**

— У 1991 годзе, падчас першага міжнароднага фестывалю тэатраў лялек у Менску, мы прывозілі туды мой спектакль «Дракон» паводле Шварца. А вось спектакль «Рыгорка — ясная зорка» па п'есе А.Вярцінскага пабываў на Архангельскім фестывалі лялечных тэатраў (дзе выступалі і краіны дальняга замежжа —Іспанія, Польшча, Францыя), на Украіне, на фестываль у горад Ужгарад таксама яго везлі. А вось на трэці міжнародны фестываль лялечных тэатраў у Менску (20 — 26 мая г.г.) вязём спектакль «Зязюлька» па п'есе Уладзіміра Граўцова Магілёўскага абласнога тэатра лялек.

**— Жадаю Вам творчых поспехаў і дзякуй за інтэрв'ю.**

— Шчыра Ваш Алег Жугжда.



Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63875** (індэкс выдання)

Культура

Колькасць камплектаў

на 1993 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА** на газету / часопіс **63875** (індэкс выдання)

ПВ | месца | лі-цер

Культура

| Кошт | падпіскі | ___ руб. ___ кап. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пера-адрасоўкі | ___ руб. ___ кап. | | |

на 1993 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)




# 9,87 м/с, альбо СВАБОДНАЕ ПАДЗЕННЕ

*У гасцях у сям'і кампазітара Уладзіміра Кандрусевіча*

## ВЫБАР

Першае пытанне да жонкі кампазітара Марыны.

— У жыцці мы неаднойчы чуем: гэта — лёс, ад яго нікуды не падзенешся. Вы згодны з такім выказваннем?

**Марына:** Часткова. Сцэнарыі жыцця кожнага чалавека даўно напісаныя, толькі не ў апошнім варыянце. Я лічу, што ў чалавека заўсёды ёсць выбар. Напрыклад, калі ён стаіць у чарзе: захоча — стаіць, захоча — пойдзе. Ніякага прымусу. Чалавек сам выбірае сітуацыю, годную яго.

**Валодзя:** Існуюць сілы вышэйшыя і сілы нізкія. Чорныя і белыя. Паміж імі ідзе барацьба.

— Кампраміс — гэта добра ці дрэнна?

**Марына:** Безумоўна, добра! Ці ўяўляеце вы сабе жанчыну, якая не ведае кампрамісаў? Я ўсё часцей прыходжу да думкі, што Бог на тое і стварыў жанчыну, дзеля мужчыны. Бо толькі жанчыне дадзена зразумець яго, даравадь многае, і галоўнае, мы ведаем — у імя чаго ідзем на кампраміс. Толькі не трэба блытаць жаноцкі кампраміс са звычайнай здрадай. Напрыклад, разумам я гатова даравадь (а гэта не мала, каб аднойчы не звар'яцець) нейкі ўчынак мужчыны дзеля Сям'і. Зразумела, не толькі дзеля спакою ў Доме, проста спакой мне не падабаецца, ён мяне насцярожвае. А вось мужчыны больш эгаістычныя, яны асабліва не напружваюцца, каб бачыць на два хады наперад. Таму сям'ю ствараюць жанчыны. Сям'я складаецца з жаноцкай дыпламатыі, якая мае назву «сямейны кампраміс». Дарэчы, гэта таксама — выбар.

— Я ўпэўнена, што вядомая формула «Сцерпіцца — злюбіцца» ў сямейным жыцці часцей за ўсё не спрацоўвае. А як на вашую думку?

**Валодзя:** Аксіёма! Чаму чалавек павінен цярпець ці чакаць? Канешне, «не сцерпіцца і не злюбіцца». Усё жыццё прымушаць сябе немагчыма. Бываюць розныя абставіны ў сям'і, але доўга на працягу жыцця цярпець побач з сабою жанчыну, якую не кахаеш, —вар'яцтва. Я не ведаю, можа, у жанчыны адбываецца інакш, улічваючы той самы жаноцкі кампраміс. Мужчыны ў гэтым выпадку ўстроены прасцей.

Такая складаная сітуацыя можа быць штуршком у вялікае альбо ў Жоўты дом. Славянін па сваёй натуры — змагар. Яму патрэбна экстрэмальная сітуацыя — гэта звычныя ўмовы для чалавека-творцы. Паглядзіце, як культура славян адрозніваецца, напрыклад, ад амерыканскай. Гэта ўжо стойкі імунітэт, генетычны код. Надоечы давялося паглядзець стужкі Канчалоўскага, знятыя ў Амерыцы. З першага кадра пазнаеш рэжысёра, мала таго, адразу адчуваеш асноўную тэму «барацьбы», толькі са славянскім пранонсам. Хаця для творцы такая пазнавальнасць можа быць і добрай. Гэта я прывёў прыклад наконт таго, што «колькі ваўка не кармі, ён усё роўна ў лес глядзіць».

— А Вы, Валодзя, у жыцці змагар? Ці аддаецеся жыццёвай плыні і чакаеце свайго часу?

**Марына:** Змагар!

## «ЧАМУ Ж НАМ НЕ ПЕЦЬ...»

— Ці ёсць абавязкі ў кожнага з сыноў і мужа па хатняй працы?

**Марына:** А як жа! На кухні я — узурпатар. Мне здаецца, калі б я нарадзілася англійскай каралевай, то ўсё роўна стаяла б каля пліты. Вось, бачыце бялізну, учора яе было значна больш: гэта значыць, у аднаго з маіх любімых мужчын быў адпаведны настрой... Спадзяюся, што да канца тыдня бялізна ў рэшце рэшт будзе ўся адпрасавана. Чуеце, хлопцы?

— Дзеці разумеюць занятасць бацькоў?

**Марына:** Я нідзе не працую, таму не настолькі занятая...

**Валодзя:** Марына — таленавіты чалавек. Яна мае зборнік вершаў, піша кінасцэнарыі. Зусім нядаўна мы разам напісалі мюзікл, які называецца «Джулія», паводле С.Моэма. Зараз ён ідзе ў Тэатры музычнай камедыі.

— Дарэчы, ваш сын Павел Кандрусевіч стварыў музыку для спектакля Магілёўскага тэатра лялек. Я была прыемна здзіўлена, паглядзеўшы праграмку фестывалю. У адным доме столькі талентаў, якія працуюць і не перашкаджаюць адзін аднаму...

**Марына:** Ніколі. Валодзя, калі ў нечым сумняваецца, раіцца са мной.

**Валодзя:** Так. Можна смела Марыну назваць першым слухачом. Яна мае добры густ, пачуццё меры і стылю. Мне дастаткова паслухаць яе заўвагі, каб нешта перапісаць зноў.

**Марына:** Валодзя, выканай, калі ласка, для нашых гасцей мой любімы ўрывак з мюзікла «Пясочны гадзіннік». Ну, дзеля мяне, знайдзі ноты...

## БАГЕМА?

**Марына:** Пра якое свецкае жыццё можа ісці гаворка? Мы нікуды не ходзім, нават на модныя зараз прэзентацыі.

— ?

**Валодзя:** Нецікава.

**Марына:** Проста сумна там.

— А за мяжой цікавей праходзяць прэм'еры? Я ведаю, што музыка Кандрусевіча-старэйшага даўно ўжо сягнула за межы айчыннага тэатра.

**Марына:** Пра што вы гаворыце! Валодзя нідзе не быў. Запрашалі некалі ў Югаславію (Валодзя пісаў музыку для спектакляў іх тэатра), але неяк не паехалі. На дзевяноста працэнтаў — з-за ляноты, бо шмат папер трэба, каб выехаць. Ды і патрэбы вялікай не адчуваем у гэтым.

## ЗАХАПЛЕННЕ

**Валодзя:** Ёсць такі «грэх». Сямейны. Як прыязджаем на лецішча, адразу едзем на роварах у лес!

**Марына:** Хаця машыну маем... Але ніякага параўнання з дваццацікіламетровым прабегам на ровары. Мы нібы зазямляемся, з плячэй мітусню гарадскога жыцця скідваем. Галоўнае — лес, прастора, не перашкаджаем думкамі нават адзін аднаму. Калі ласка, паехалі ў суботу разам, месца ўсім хапае.

**P.S.** *Я выходзіла разам з нашым фотакорам з кватэры вядомага кампазітара Уладзіміра Кандрусевіча з пачуццём чалавека, які хацеў пець у хоры, але не меў слыху і голасу. Нашыя галасы не гучалі ці не падыходзілі. Марына толькі праз некалькі гадзін дала згоду на фотаздымак, але гэта быў не звычайны жаноцкі капрыз. Проста сёння ёй не хацелася. Так рабілі тут заўсёды: ніхто ніколі не прымушаў рабіць нешта. Самае цікавае адбылося ў калідоры, калі сталі развітвацца, схавалі дыктафон, фотаапарат. Неяк спантанна завязалася размова... на гадзіну. Пра што гаварылі? А пра чорную драматургію Петрушэўскай, героі якой сустракаюцца ў кожнай кватэры, пра тое, што ў сына няма майстэрні, і яму аддалі самую вялікую залу. Пра жыццё, якое заўсёды ляціць па шырокім праспекце, а спыняецца толькі ў вузкіх калідорах. І яшчэ... Я ніколі не пагаджуся з выказваннем Льва Мікалаевіча Талстога пра шчаслівыя сем'і. У кожнай шчаслівай сям'і гучыць свая мелодыя. Хай не ўсе могуць іх ствараць, але толькі двое яе могуць чуць. І гэта таксама талент...*



Мелодыю спрабавала падслухаць
**Жанна ВАСАНСКАЯ.**

---

**ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА**

На абанеменце павінен быць адбітак касавай машыны.

Каб афарміць падпіску (пераадрасоўку) без касавай машыны, на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку разам з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).

____ ____ ____ ____ ____ ____ ____

Каб афарміць падпіску на газету ці часопіс, а таксама каб пераадрасаваць выданне, бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарніламі, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна з умовамі, што выкладзены ў каталогах Саюздруку.

Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі «ПВ-МЕСЦА» робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі і Саюздруку.

---

Культура

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара — Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:
А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ.

Адказны сакратар — Віталь ТАРАС
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Камп'ютэрная вёрстка — Віктар ДНЯПРОЎСКІ
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Адрас рэдакцыі:
220050, МІНСК (МЕНСК), вул.КІРАВА, 25, кв. 12.

Тэлефон: 27-83-18

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

©
Фармат А3.
Індэкс 63875
Агульны наклад 11127
Замова 21

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

